www.nv-online.info

**№ 24 (4276)**

23 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# 25 сакавіка 1918-га – 25 сакавіка 2018-га:

## стагоддзе найноўшай беларускай дзяржаўнасці

### Разам давяршым будаўніцтва агульнага дома, імя якому – Беларусь

25 сакавіка 1918 года ідэя беларускай дзяржаўнасці была канчаткова аформлена ў выглядзе палітычнага дакумента. Бессэнсоўна спрачацца наконт правільнасці фармулёвак, наконт таго, падабаюцца альбо не камусьці палітыкі, якія іх складалі. Самым важным было іншае: беларускі народ ясна і выразна выказаўся на карысць нацыянальнай дзяржаўнасці. Да гэтага нашы продкі доўгі час жылі ў федэратыўнай манархіі, потым – у імперыі, якая захапіла нашы землі. Цяпер жа гаворка ішла пра нацыянальна-дэмакратычную рэспубліку. Якой павінна быць гэта рэспубліка? Адказ можна было атрымаць толькі на ўсенародных празрыстых дэмакратычных выбарах.

Замест выбараў беларускі народ атрымаў Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў рамках новай савецкай федэрацыі. Гэту старонку гісторыі не перапішаш, і гэтыя 73 гады не пражывеш нанова. Суверэнная дэмакратычная Рэспубліка Беларусь была абвешчана на руінах Савецкага Саюза ў 1991 годзе. Гэта было б немагчыма, калі б сама ідэя такой дзяржавы не была агучана 25 сакавіка 1918 года.

Што ж мы будзем святкаваць у нядзелю? Стагоддзе ідэі ці стагоддзе дзяржаўнасці?

І тое, і другое. Без ідэі народ не ў стане сфармуляваць тое, чаго ён хоча. Стагоддзе Беларускай Народнай Рэспублікі – так, не рэалізаванай у поўнай меры, знішчанай як юрыдычны факт – тым не менш ёсць і стагоддзе найноўшай беларускай дзяржаўнасці.

Стагоддзе БНР – пачатак новай старонкі, новага веку. Сто гадоў, што мінулі, былі гадамі войнаў, крывавых міжусобіц, падаўлення іншадумства. Але дзень стагоддзя выпаў на Нядзелю, святочны дзень, дзень Уваскрасення. Будзем лічыць, што гэта знак, які дасылае нам Гісторыя. Навучымся жыць у сваёй краіне, любіць яе, берагчы, каб пакінуць новым пакаленням беларусаў.




Гісторыя народа і яго дзяржавы – тое, што павінна аб'ядноўваць усіх нас. На старонках гэтай гісторыі, што пішацца кожны дзень, сваё пачэснае месца павінны знайсці Леў Сапега і Пётр Машэраў, Кастусь Каліноўскі і Вацлаў Ластоўскі, Кіпрыян Кандратовіч і Раман Скірмунт, Ларыса Геніюш і Васіль Быкаў, Радзім і Максім Гарэцкія і Іван і Антон Луцкевічы, Яўхім Карскі і Усевалад Ігнатоўскі. У падручніках радкі Янкі Купалы і Якуба Коласа павінны суседнічаць з вершамі Алеся Салаўя і Наталлі Арсенневай, а музыка Юрыя Багатырова і Яўгена Глебава павінна гучаць поруч з музыкай Міколы Равенскага і Дзмітрыя Камінскага. Нянавісць і падазронасць павінны сысці назаўсёды, каб беларусы змаглі пачуць адзін аднаго, зразумець адзін аднаго, падаць адзін аднаму руку і разам давяршыць будаўніцтва агульнага дома, імя якому – Беларусь.

Гісторыя яшчэ раз дае нам шанц. Скарыстаемся ж ім. Няхай 25 сакавіка стане для ўсіх беларусаў не толькі Днём Волі, але і Днём Узаемаразумення і Прымірэння, без якіх на самай справе волі не дасягнуць.

Са святам вас, грамадзяне Рэспублікі Беларусь! Са стагоддзем адраджэння Беларускай дзяржавы!

**ПРАТЭСТ**

## Заява Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў"

21 сакавіка 2018 года ў ліку іншых палітычных актывістаў быў арыштаваны і кінуты за краты сябра Рады нашай арганізацыі, найвядомейшы беларускі паэт і празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Уладзімір Някляеў. Паводле нечай злой іроніі, яго арышт супаў са святкаваннем Міжнароднага дня паэзіі.

Відавочным з'яўляецца той факт, што зняволенне Уладзіміра Някляева звязана з правядзеннем у Мінску 25 сакавіка святочных мерапрыемстваў у гонар 100-годдзя з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Тым не менш, як стала вядома, афіцыйна Уладзіміру Някляеву інкрымінуецца "заклік да ўдзелу ў несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах", а менавіта – мінулагодняе інтэрв'ю тэлеканалу "Белсат", дзе ён выказаў меркаванне, што "калі ёсць воля абараняць свае правы, трэба ісці і іх абараняць". Нягледзячы на пратэсты грамадскіх арганізацый і праваабаронцаў, Уладзімір Някляеў быў прызнаны вінаватым і асуджаны да адміністрацыйнага арышту, які органамі выканання прысудаў быў прымеркаваны да 100-годдзя беларускай незалежнасці.

Выказваючы абурэнне дзеяннямі органаў унутраных спраў,

*лічым*, што зняволенне Уладзіміра Някляева наўпрост суаднесена з правам яго як грамадзяніна на выказванне сваёй пазіцыі, а такім чынам гэты арышт парушае адно з асноўных правоў чалавека, замацаваных у Канстытуцыі, – права на свабоду слова.

*патрабуем* ад беларускіх улад спыніць рэпрэсіі ў дачыненні да Уладзіміра Някляева, неадкладна вызваліць яго з ізалятара, зняць несправядлівыя абвінавачанні, а таксама прыцягнуць да адказнасці тых службовых асоб, якія парушаюць канстытуцыйныя правы грамадзян.

Аксак Валянціна
Аляхновіч Мікола
Арлоў Уладзімір
Багдановіч Ірына
Баравікова Раіса
Бароўскі Анатоль
Брава Алена
Васючэнка Пятро
Вярцінскі Анатоль
Голуб Юрка
Дайнека Леанід
Далідовіч Генрых
Дубатоўка Валянцін
Дубянецкая Галіна
Жук Алесь
Жуковіч Васіль
Зуёнак Васіль
Казько Віктар
Карамазаў Віктар
Каржанеўская Галіна
Клімковіч Максім
Лазебная Анастасія
Пашкевіч Алесь
Пятровіч (Сачанка) Барыс
Сіўчыкаў Уладзімір
Скобла Міхась
Спрынчан Аксана
Сцебурака Усевалад
Федарэнка Андрэй
Хадановіч Андрэй
Хатэнка Антаніна
Цвірка Кастусь
Яцкоў Мікола

*22.03.2018*

Аналагічную заяву прыняў і Беларускі ПЭН-цэнтр, ганаровым старшынёй якога з'яўляецца Уладзімір Някляеў. Яе падпісалі: Павел Анціпаў, Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Алена Казлова, Уладзімір Лянкевіч, Таццяна Нядбай, Андрэй Хадановіч.

**ДА ВЕДАМА**

## Што пачуем і каго ўбачым...

Як вядома, 25 сакавіка ў Мінску на плошчы каля Вялікага тэатра оперы і балета адбудзецца маштабны фестываль да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі "Свята Незалежнасці". Мерапрыемства афіцыйна дазволена Мінгарвыканкамам.

Прапаноўваем вашай увазе фінальную праграму:

**13.00** – збор на пляцоўцы Свята.

**13.00–14.00** – выступленні гуртоў Amaroka і "Мутнаевока", інтэрактыў ад хадулістаў вулічнага тэатра «Вір».

**14.00** – урачыстае адкрыццё.

**14.00–15.00** – урачыстая частка з зачытваннем 3-й Устаўной граматы, віншавальнымі выступленнямі запрошаных гасцей, тэатральна-музычнай праграмай, выступленнямі мужчынскага хору Headspring, спявачкі Таццяны Грыневіч.

**15.00–18.50** – музычна-віншавальная праграма з выступленнямі гуртоў і выканаўцаў: Akute, РСП, Юрый Стыльскі (гурт "Дай Дарогу!"), Ігар Варашкевіч (гурт "Крама"), Dzieciuki, Кася Камоцкая (гурт "Новае Неба"), Пётр Клюеў (гурт "ЛСП"), Павел Аракелян, Адэля Вольская і гурт-сюрпрыз.

Таксама ў гэтай частцы праграмы: віншавальныя выступленні вядомых грамадскіх актывістаў, творчых асоб, прадстаўнікоў СМІ, замежных гасцей і партнёраў; Спеўны сход з Сержуком Доўгушавым; прэзентацыя новай песні Лявона Вольскага "Героі не паміраюць"; розыгрыш падарункаў.

**18.50–19.00** – віншаванні ад арганізатараў Свята, супольнае ўрачыстае выкананне гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На працягу ўсяго мерапрыемства будуць працаваць чатыры тэматычныя пляцоўкі: "Вуліца БНР", "Кірмаш БНР", "Дзеткі БНР", "Ежа БНР".

Нагадваем, што ўваход на мерапрыемства вольны.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

**МІНСК–ТБІЛІСІ**

## «Адчуваю, што тут блізкія нам людзі»

*Учора Аляксандр Лукашэнка прыбыў у Грузію з двухдзённым візітам.*



«Я сапраўды сюды еду як дадому. Хоць і ў другі раз. Але я адчуваю, што тут блізкія нам людзі, – вітаў свайго калегу Георгія Маргвелашвілі беларускі лідар. – Шчыра скажу, што ў нейкія паездкі едзеш і ведаеш, што гэта цяжкая праца. У Грузію я разумею, што еду працаваць, але з вялікім хваляваннем заўсёды і ў чаканні, што тут вельмі добрыя, лагодныя, прыстойныя людзі».

Маргвелашвілі ў сваю чаргу падкрэсліў, што адносіны Беларусі і Грузіі для многіх у свеце могуць быць прыкладам.

Учора па выніках перагавораў лідараў дзвюх краін быў падпісаны дагавор аб асновах супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Грузіяй. Акрамя таго, у прысутнасці кіраўнікоў дзяржаў падпісаны яшчэ 10 дакументаў, накіраваных на развіццё супрацоўніцтва па канкрэтных напрамках. У іх ліку пагадненне паміж урадамі Беларусі і Грузіі аб узаемных бязвізавых паездках грамадзян.

Дарэчы, першы афіцыйны візіт Лукашэнкі ў Грузію адбыўся ў красавіку 2015 года. Тады было падпісана 16 дакументаў па асноўных пытаннях развіцця двухбаковага супрацоўніцтва і прынята рашэнне аб адкрыцці ў Тбілісі беларускага пасольства. Георгій Маргвелашвілі наведаў Беларусь з афіцыйным візітам у сакавіку 2017 года.

**ВАЖНА!**

## Як вырашаюцца пытанні бяспекі?

*Аб тым, якія меры бяспекі будуць прыняты падчас святкавання Дня Волі 25 сакавіка каля Опернага тэатра, "Народнай Волі" распавёў адзін з заяўнікаў дазволенага мерапрыемства – старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.*

– Заяўнікі, якія атрымалі дазвол на правядзенне канцэрта ля Опернага тэатра, спрабавалі атрымаць афіцыйны дазвол і на шэсце па маршруце "Парк Янкі Купалы – пляцоўка каля Опернага тэатра", бо давайце будзем называць рэчы сваімі імёнамі: шэсце ніхто адмяніць не можа. Калі адсвяткаваць векавы юбілей БНР збяруцца тысячы, а магчыма – дзясяткі тысяч чалавек, як ім дабірацца да дазволенага месца святкавання? Толькі пешшу. І гэта будзе шэсце… Мы прапаноўвалі гарадскім уладам: давайце мы гэта арганізуем, каб усё прайшло ўзгоднена. Адказ быў адмоўны: не трэба. Таму тут мы разлічваем выключна на людскую самаарганізаванасць. Падкрэсліваю: вельмі важна, каб падчас таго, як людзі будуць ісці на пляцоўку да Опернага тэатра, усё прайшло спакойна, без правакацый.

**– Ці ўсе тэхнічныя моманты, звязаныя з пытаннямі бяспекі, абмеркаваны і ўзгоднены з прадстаўнікамі ГАУС?**

– У сталічнай міліцыі ёсць зацікаўленасць у тым, каб дазволенае святкаванне прайшло без інцыдэнтаў. Падчас сустрэч з прадстаўнікамі сілавых структур мы абмеркавалі шмат пытанняў, якія тычацца бяспекі. Засяроджуся на некаторых, самых важных.

Праход на мерапрыемства будзе ажыццяўляцца праз спецыяльныя турнікеты. Скептыкам, якія гавораць, што "святкаванне за агароджай" – гэта не свята, адкажу так: гэта абсалютна нармальная практыка, калі людзей на масавых мерапрыемствах даглядаюць. Гэта пытанне нашай з вамі бяспекі. Пры гэтым, як нас запэўнілі, дагляд будзе адбывацца даволі спакойна, як гэта робіцца, напрыклад, на сталічных музычных вечарах ля Ратушы. Удзельнікі святкавання смела могуць прыносіць з сабой бел-чырвона-белыя сцягі на вудах. Не прапусцяць тыя сцягі, якія будуць прычэплены на канструкцыі з вострымі наканечнікамі – пікі і г.д.

Парадак на мерапрыемстве будзе падтрымліваць і наша дружына з добраахвотнікаў. Прычым міліцыя настойвае на тым, што яны будуць адказваць у асноўным за тое, што адбываецца па перыметры пляцоўкі, а наша дружына павінна кантраляваць тое, што адбываецца ўнутры. Хаця, безумоўна, пры ўзнікненні нейкіх канфліктных сітуацый супрацоўнікі міліцыі будуць гатовы ўмяшацца.

Адзначу, што на пляцоўцы ля Опернага будуць арганізаваны кропкі, дзе можна будзе выпіць гарачай кавы ці гарбаты.

**– Наколькі вядома, абмяркоўвалася пытанне аб магчымым спыненні аўтамабільнага руху на вуліцах, якія прылягаюць да Опернага тэатра. Як яно вырашылася?**

– Спецыяльна дарожны рух ніхто перакрываць не будзе. Але, калі на святкаванне прыйдзе сто-дзвесце тысяч чалавек, то супрацоўнікі праваахоўных органаў гатовы разгледзець і такі варыянт. Па крайняй меры мы звярнулі на гэта іх увагу. І наша заўвага была занатавана.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# У Белстата инфляция одна, у народа – другая

По сообщению Белстата, инфляция в Беларуси за февраль составила 0,9%. А за два месяца с начала года потребительские цены выросли на 1,7%. Много это или мало?

Обычно запоминаются годовые индексы инфляции. Так, за прошлый год цены на потребительском рынке выросли, к примеру, на 4,6% при прогнозе 9%. Вроде бы хорошо. Но на текущий год инфляция запланирована не более 6%. Чтобы выйти на этот годовой прогноз, необходимо, чтобы ежемесячно рост цен укладывался в среднем в 0,5%. Поэтому цены с начала года стартанули довольно резво.

За инфляцию в первую очередь отвечает Нацбанк. В декабре для выхода на тысячерублевую зарплату по стране он подбросил деньжат – и результат налицо. За инфляцию отвечает и Белстат. В том смысле, что у него она одна, а у народа – другая. Белстат выводит сводный показатель инфляции, принимая во внимание движение цен так называемой корзинки товаров, которая состоит не менее чем из 400 позиций, включая услуги. В 2018 году Белстат исходит из следующей разбивки потребительской корзины: 46,37% – доля продовольственных товаров, 31% – непродовольственных и 22,63% – доля услуг. Отсюда выходит, что на сводный индекс инфляции наибольшее влияние оказывает изменение цен на продовольственные товары.

По сравнению с развитыми странами такая высокая доля продтоваров в корзинке отражает вынужденные потребительские предпочтения белорусов. Как говорится, работаем за еду. Так вот, цены на продовольственные товары в феврале выросли на 0,6% (с начала года – на 1,4%), на непродовольственные – на 0,2% (с начала года – на 1%), а на услуги с начала года – на 3,1%. Если население покупает преимущественно продтовары, то в его представлении инфляция в большей мере не совпадает с официальной. Например, в феврале картофель подорожал на 13%, капуста – на 10%, огурцы – на 8%, фрукты – на 6,7%. Подливают масла в огонь инфляции и услуги, за которые неизбежно платит каждый из нас. Так, тарифы на услуги ЖКХ выросли: холодное водоснабжение и канализация – на 13%, электроснабжение – на 11%, газоснабжение – на 6%, пользование лифтом – на 5%. В целом тарифы на эти услуги, традиционно контролируемые государством, увеличились на 7,4%.

Не доверяет Белстату не только народ, но и глава государства: *«Людям все равно, какая у нас в стране средняя инфляция. Они делают выводы по ценам на товары, которые покупают каждый день. А там рост как минимум на 8–10% за каждый год. А если услуги сюда добавить, то и больше, а не 4,5% или 6%. Поэтому рост цен для населения по-прежнему является проблемой номер один»*.

Общей бедностью населения, его расслоением по доходам во многом объясняются высокие инфляционные ожидания белорусов. В феврале по заказу Нацбанка был проведен опрос о субъективной оценке инфляции. Он показал, что ощущаемая респондентами годовая инфляция составила 12,4%, а ожидаемая – 11,6%.

Глава государства в очередной раз озадачил Министерство антимонопольного регулирования и торговли (МАРТ) разобраться в ситуации, с тем чтобы укротить рост цен. Глава министерства сразу отметил, что в стране отсутствует система обоснованных экономических расчетов по установлению тарифов и цен (что касается услуг ЖКХ, так это точно «черный ящик»). И предложил создать при МАРТ соответствующую структуру на правах НИИ. Многие аналитики сразу задались вопросом: по такому ли пути надо идти? Припомнили, что давно доказан вред от номенклатурного установления цен, в том числе по еще советскому принципу: цена есть затраты производителя плюс нормативная прибыль. И сегодня правительство активно применяет административное ценорегулирование, включая массу ценовых и тарифных льгот для госпредприятий. Сам по себе факт присутствия в ценовых законодательствах фразы «обоснованность повышения цен» с рыночной точки зрения абсурден. Искусственное удержание цен приводит к недополучению прибыли производителями и угнетает их развитие. Искажается и интерпретация антимонопольной деятельности. Так, МАРТ в госреестре субъектов естественных монополий выделяет 195 субъектов хозяйствования, как занимающих доминирующее положение – 184 субъекта на республиканском уровне и почти 450 субъектов на местном уровне. Получается, монополии на монополиях.

А как же быть с известным рыночным постулатом: главный тормоз для роста цен – здоровая конкуренция производителей и предприятий торговли? Она создает рынок, где властвует потребитель, а не производитель, где главное не произвести, а продать. Не станем утверждать, что в развитых странах правительство вовсе не регулирует цены. Регулирует. Но преимущественно косвенными, точечными методами. Почему бы МАРТ не ознакомиться с ними? И увидеть: чем меньше государства в ценообразовании, тем лучше.

ДЫЯГНАЗ

# Народных не ўзялі...

## Так званая лечкамісія стала ўстановай для вузкага кола пацыентаў?

У лютым гэтага года Рэспубліканскі клінічны медыцынскі цэнтр Упраўлення справаў прэзідэнта – так званая лечкамісія – пераехаў з цэнтра Мінска ў новы будынак у пасёлку Ждановічы.

Пераезду папярэднічала вялікая нарада ў прэзідэнта, на якой галоўны ўрач клінікі **Ірына Абельская** заявіла, што абслугоўвацца ў новым цэнтры будзе да 10 тысяч чалавек. Тады на гэтую лічбу мала хто звярнуў увагу, а між тым атрымлівалася, што кантынгент прэзідэнцкай бальніцы рэзка змяншаецца, таму што да нядаўняга часу да лечкамісіі былі прымацаваны каля 17 тысяч чалавек. Гэта кіраўнікі вертыкалі, асобы, уключаныя ў кадравы рэестр прэзідэнта, а таксама народныя артысты, мастакі, лаўрэаты розных прэмій, вядомыя навукоўцы, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы і іншыя заслужаныя людзі краіны.

У першыя дні лютага, калі ў прэсе сталі з'яўляцца рэпартажы з новага будынка клінікі ў Ждановічах, народны артыст Беларусі, вядомы і любімы многімі акцёр Купалаўскага тэатра **Віктар Манаеў** у сацыяльных сетках паскардзіўся, што «*народных і лаўрэатаў дзяржпрэмій лячыцца ў Ждановічы не ўзялі*», ад прэзідэнцкай клінікі іх адмацавалі. Падчас палемікі, якая разгарнулася ў інтэрнэце, прагучала, што ў Ждановічах будзе абслугоўвацца толькі спецкантынгент – дзяржчыноўнікі і члены іх сем'яў.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што, паводле слоў Ірыны Абельскай, новая клініка будзе абслугоўваць не толькі дзяржаўных служачых, але і іншых грамадзян, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё нашай дзяржавы, таксама яе пацыентамі змогуць стаць грамадзяне, якія маюць дамовы добраахвотнага медыцынскага страхавання або заключылі прамыя дамовы з медцэнтрам. Акадэмік **Радзім Гарэцкі** кажа, што ў Ждановічы перавялі акадэмікаў. *"Я нядаўна тэлефанаваў у рэгістратуру ў Ждановічы, мне пацвердзілі, што, паколькі я з'яўляюся акадэмікам НАН, то застаюся іх пацыентам*, – расказвае Радзім Гаўрылавіч. – *Запрашалі прыходзіць у любы момант – маўляў, чэргаў пакуль няма, бальніца літаральна пустая. Але членаў сям'і адмацавалі ад лечкамісіі, накіравалі ў паліклініку па месцы жыхарства"*.

### «Іх не кінулі, медыцынскай дапамогай яны будуць забяспечаны»

Інфармацыю пра тое, што многія заслужаныя беларусы зараз не з'яўляюцца пацыентамі прэзідэнцкай бальніцы, пацвярджае галоўны ўрач 2-й Клінічнай бальніцы Мінска **Сяргей Прусевіч**.

– *У будынку ранейшай паліклінікі медцэнтра Кіраўніцтва справаў прэзідэнта на вул.Энгельса, 17 ужо працуе кансультатыўная паліклініка 2-й Гарадской клінічнай бальніцы*, – расказвае Сяргей Мікалаевіч. – *Усе нарматыўныя дакументы адносна таго, хто будзе там назірацца, яшчэ не гатовы, пакуль пацыенты паліклінікі – тая частка спецкантынгенту, хто абслугоўваўся ў лечкамісіі: заслужаныя дзеячы навукі, культуры, вытворчасці.*

**– У выпадку шпіталізацыі яны будуць накіроўвацца ў Ждановічы ці ў 2-ю бальніцу?**

– *Да Рэспубліканскага клінічнага медцэнтра Упраўлення справаў прэзідэнта яны ўжо не маюць дачынення, будуць лячыцца ў нас. Хай не хвалююцца. Іх не кінулі, медыцынскай дапамогай яны будуць забяспечаны!*

Дарэчы, 2-й клініцы Мінска аддадзены ўсе старыя карпусы лечкамісіі за выключэннем аднаго – будынка на Чырвонаармейскай, 15. Ён па-ранейшаму застаецца ў структуры Рэспубліканскага клінічнага медцэнтра Кіраўніцтва справаў прэзідэнта, там сёння прапаноўваюцца платныя паслугі жыхарам горада. Праўда, прайсці такія запатрабаваныя ў насельніцтва абследаванні, як МРТ або КТ, там нельга, але можна за грошы зрабіць ультрагукавое даследаванне розных органаў, наведаць касметолага, паплаваць у басейне, таксама на платнай аснове працуюць аддзяленне афтальмалогіі і дзённы стацыянар.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### «Пазбавілі і абслугоўвання ў лечкамісіі, і рэцэптаў на імпартныя лекі – перавялі на айчынныя»

*Пра тое, як падзялілі пацыентаў лечкамісіі, расказвае народная артыстка Беларусі* ***Зінаіда Бандарэнка****.*

– Сітуацыя, на мой погляд, прыкрая і непрыгожая, – *уздыхае Зінаіда Аляксандраўна*. – Многія мае калегі вельмі балюча яе перажываюць. Яшчэ калі толькі пайшлі чуткі, што народных артыстаў, знакамітых вучоных, вытворцаў не перавядуць у Ждановічы, мая сяброўка, таксама народная артыстка Беларусі, пайшла даведацца, няўжо гэта праўда. *"Так*, – патлумачылі ёй у рэгістратуры. – *Артысты, мастакі ў Ждановічы не паедуць, там будзе абслугоўвацца эліта, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай працы"*. Атрымліваецца, што ў нашай краіне заслужаныя і народныя артысты, паэты – гэта не эліта? Больш за тое, зараз у рэгістратуры кансультатыўнай паліклінікі 2-й бальніцы, куды прымацавалі тых, хто не трапіў у Ждановічы, я чытаю: *"Героі Савецкага Саюза і Сацыялістычнай працы абслугоўваюцца без чаргі"*. Гэта значыць, што іх пакінулі разам з намі тут, у горадзе, а бальніца ў Ждановічах, трэба разумець, – гэта ўстанова для чыноўнікаў высокага ўзроўню?

Была я сведкай і такой сітуацыі. Стаяла ў чарзе ў рэгістратуру па талончык, і якраз у той момант раздаўся тэлефонны званок. Чую, як супрацоўніца рэгістратуры адказвае: *"Ніжнікава? Так, яна прымацавана да нас, не ў Ждановічы. Але ўрачы па выкліку на дом ужо не выязджаюць. Тэлефануйце ў звычайную "хуткую дапамогу"*. Як жа так! Тамара Мікалаеўна Ніжнікава, народная артыстка Савецкага Саюза, оперная дзіва! Няўжо яна мае менш заслуг перад краінай, чым тыя чыноўнікі, якія сёння намі кіруюць?! Сорам! А Тамара Мікалаеўна, між іншым, увечары таго ж дня памерла… Цяжка перажывала адлучэнне ад лечкамісіі Нэлі Багуслаўская. Яшчэ напярэдадні ўсіх гэтых падзей мы ляжалі з ёй у лечкамісіі на Чырвонаармейскай у адной палаце, і яна мне сказала: *"Ходзяць чуткі, што нас з лечкамісіі адлічаць. Калі гэта так, то я памру"*. І Нэлі мы пахавалі напрыканцы студзеня.

Канешне, у лечкамісіі стаўленне да ўсіх пацыентаў было вельмі прыстойнае. Не было доўгіх чэргаў ні да ўрача, ні на абследаванні, свая "хуткая дапамога" – у любы момант можна было выклікаць урача на дом. Шпіталізавалі пры першай неабходнасці, абследавалі практычна з галавы да ног. Зараз, канешне, нічога гэтага ўжо не будзе. І тое, што мы апынуліся ў звычайнай паліклініцы, адчулі адразу. Каб трапіць да тэрапеўта, трэба чакаць 10–12 дзён. На даследаванні таксама чэргі, і робяць іх альбо ў 2-й бальніцы, альбо ў 3-й, альбо ў 6-й гарадской паліклініцы. Тое ж самае і з аналізамі. Адным словам, пакуль суцэльныя нязручнасці. Можа, потым нешта выправіцца…

Я засталася прымацаваная да кансультатыўнай паліклінікі 2-й бальніцы, а мужа майго выкінулі і адтуль. Больш за тое, ён хварэе на цяжкую форму глаўкомы. Калі быў пацыентам лечкамісіі – выпісвалі рэцэпт на імпартныя лекі, зараз адразу ж перавялі на айчынныя. А яны зусім не дапамагаюць, нават шкодзяць у яго сітуацыі. Таму я вырашыла: буду яму аддаваць прэпараты, якія выпісваюць мне, а сама буду прымаць беларускія.

Магчыма, прывілеі для пэўнага кантынгенту – гэта няправільна, і ў цывілізаваным свеце іх не існуе. Але ў нас было так. І, напэўна, калі пазбаўляцца ад гэтай практыкі, то, лічу, у першую чаргу чыноўнікі мусілі пачынаць з сябе. Ім не перашкодзіла б паварыцца ў паліклінічных чэргах побач з народам. Але ў нас за бортам апынуліся народныя артысты, многія заслужаныя людзі – ужо немаладыя і ў большасці сваёй хворыя...

У ТЭМУ

### Патрабуюцца кардыёлаг, рэўматолаг, гастраэнтэролаг...

У лютым старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Сяргей Малышка** расказаў журналістам, што пасля перадачы будынкаў лечкамісіі *"на базе 2-й Гарадской клінічнай бальніцы будзе сфарміравана прынцыпова новая медыцынская ўстанова – Мінскі гарадскі шматпрофільны клінічны цэнтр, куды ўвойдуць стацыянар і амбулаторна-кансультатыўны аддзел. На базе новага цэнтра адкрыюцца цэнтры калектыўнага карыстання КТ- і МРТ-дыягностыкі, мамаграфіі экспертнага ўзроўню"*. Паводле слоў Малышкі, за кошт старых плошчаў прэзідэнцкай бальніцы сталічная сістэма аховы здароўя папоўнілася 178 ложка-месцамі.

Сяргей Прусевіч у каментарыі нашаму выданню ўдакладніў, што ў цэнтры КТ- і МРТ-дыягностыкі будуць накіроўвацца на абследаванне не ўсе жадаючыя, а толькі пацыенты шэрагу ўстаноў аховы здароўя Мінска, якіх спецыяльным загадам замацуюць за 2-й клінікай. Таксама зрабіць МРТ можна будзе і на платнай аснове.

Ужо ў красавіку, паводле слоў Сяргея Прусевіча, у бальніцы павінны адкрыцца новыя аддзяленні – практалогіі, кардыялогіі, уралогіі, аддзяленне малаінвазіўнай хірургіі. І сёння, дарэчы, першая навіна на сайце бальніцы – прапановы аб працаўладкаванні. 2-й Клінічнай бальніцы Мінска патрабуюцца ўрачы літаральна ўсіх спецыяльнасцяў: хірург, траўматолаг, кардыёлаг, рэўматолаг, эндаскапіст, рэабілітолаг, гастраэнтэролаг і г.д. Запрашаюцца на працу медыцынскія сёстры як у стацыянар, так і ў паліклініку.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ГІСТОРЫЯ БНР: 100 ГОД ТАМУ...

# Першыя крокі наваствоpанай Рэспублікі

У першыя дні пасля абвяшчэння Другой Устаўной граматы Народны сакратарыят БНР накіраваў афіцыйныя лісты на адрасы мінскіх устаноў: гарадскіх – акруговага суда, акруговай пракуратуры, губернскай прысутнасці, аддзялення Дзяржбанка, казённай палаты, паштова-тэлеграфнай акругі, губернскай прысутнасці, губернскіх устаноў – управы дзяржаўнай маёмасці, дырэкцыі народных вучылішчаў, управы Лібава-Роменскай чыгункі – з паведамленнем, што з моманту атрымання гэтых лістоў яны становяцца ўстановамі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дзень 22 сакавіка 1918 г. можна лічыць пачаткам актыўнай і паўнавартаснай міжнароднай дзейнасці Рады БНР. Яе ўпаўнаважаны прадстаўнік Аляксандр Цвікевіч адправіўся ў Кіеў на чале дэлегацыі БНР. Ён атрымаў наказ Рады за подпісам яе старшыні Янкі Серады. У наказе сярод іншага беларускай дэлегацыі даручаецца:

– афіцыйна паведаміць Украінскай Народнай Рэспубліцы пра абвяшчэнне БНР;

– узяць удзел у перамовах паміж УНР і Савецкай Расіяй аб міры (гэта было ўмовай Брэсцкага мірнага дагавора) у якасці самастойнай і незалежнай дэлегацыі; падчас гэтых перамоў дамагчыся ўстанаўлення беларуска-расійскай і беларуска-ўкраінскай межаў дакладна паводле этнаграфічнай прыкметы;

– высветліць умовы таварнага абмену паміж БНР і УНР і атрымання пазыкі ад урада УНР;

– устанавіць прамую тэлефонна-тэлеграфную сувязь паміж урадамі абедзвюх рэспублік.

Наша дэлегацыя была забяспечана адмысловай круглай пячаткай з надпісамі "Народны Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі. Дэлегацыя ў справе перагавораў".

Але весці міжнародныя перамовы з іншымі суверэннымі дзяржавамі, не абвясціўшы незалежнасці дзяржавы сваёй, было вельмі складана.

23 сакавіка ў Мінск прыбыла дэлегацыя Віленскай Беларускай Рады (ВБР) у складзе братоў Антона і Івана Луцкевічаў, а таксама Адама Станкевіча. Гэтая дэлегацыя мела некалькі сустрэч з прадстаўнікамі Народнага сакратарыята БНР. У выніку гэтых перамоў абодва бакі прыйшлі да згоды ў надзвычай важным пытанні: Беларусь павінна любымі спосабамі дамагацца аб'яднання беларускіх земляў, падзеленых паводле Брэсцкай дамовы паміж кайзераўскай Германіяй, Савецкай Расіяй і Украінскай Народнай Рэспублікай. Спецыяльна падкрэсліваю: ні Белнацкам, ні іншыя беларускія арганізацыі савецкай арыентацыі на той момант такога пытання не ставілі!

Гэта азначала, што новая беларуская ўлада не прызнавала навязаных нашай краіне ўмоў Брэсцкага міру і была гатова адстойваць сваю пазіцыю ў перамовах з усімі трыма бакамі, а найперш – з кайзераўскай Германіяй і Савецкай Расіяй.

У той жа дзень, 23 сакавіка 1918 г., Прэзідыум Рады БНР прыняў рашэнне аб скліканні свайго пасяджэння ў пашыраным складзе. Кожнаму з 71 сябра Рады, а таксама 10 прадстаўнікам гарадской мінскай улады, 10 прадстаўнікам земства, 9 прадстаўнікам Рады ў правінцыях, 10 прадстаўнікам клерыкальнай групы Мінскага беларускага прадстаўніцтва, 15 прадстаўнікам арганізацый нацыянальных меншасцяў, 27 сябрам Рады Усебеларускага з'езда былі дасланы запрашэнні наступнага зместу:

*"Прэзідыум Рады Беларускай Народнай Рэспублікі гэтым паведамляе, што чарговае пасяджэнне Рады адбудзецца ў нядзелю 24-га сакавіка… а 5-й гадзіне (па сярэдне-еўрап. часе) увечары, у доме пад №43 на Захар'еўскай вуліцы (3-ці паверх першага ад Серпухаўскай вуліцы пад'езда).*

*Павестка:*

*1.Даклад прадстаўнікоў Віленскай Беларускай Рады.*

*2.Даклад Камісіі па наказе і Мандатнай".*

*а) выбары Прэзідыума Рады;*

*б) выбары Сеньёрэн-канвента (Рады Старэйшын. –* ***Л.Б.****);*

*г) модус прадстаўніцтва дзеля сканструявання Рады.*

*3.Даклад Мінскага гарадскога галавы.*

*Старшыня Рады (подпіс) Я.Серада*

*Пісар (подпіс) К.Езавітаў".*

(Неабходна дадаць, што будынак, у якім адбылося гістарычнае пасяджэнне пашыранай II сесіі Рады БНР 24 і 25 сакавіка, сёння захаваўся і знаходзіцца ў Мінску па адрасе: вул.Валадарскага, 9.)

Пасяджэнне 24 сакавіка 1918 года, як засведчылі яго непасрэдныя ўдзельнікі, пачалося прыкладна ў вызначаны час. Дэлегацыю Віленскай Беларускай Рады прысутныя сустрэлі з энтузіязмам. Язэп Варонка выступіў з дакладам пра значэнне Вільні для беларускага руху, скончыўшы яго словамі: "Беларусы, сёння ў нас Вялікдзень. Сёння зноў духоўна аб'яднаціся Вільня і Менск – душа і цела. Сёння беларус уваскрос!" У сваім выступленні Антон Луцкевіч спыніўся на асноўных момантах дзейнасці беларускіх арганізацый на Віленшчыне і Гарадзеншчыне на працягу апошніх трох гадоў. Пасля гэтага выступлення Аркадзь Смоліч ад імя фракцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ўнёс прапанову дапоўніць парадак дня сесіі пытаннем аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і абгрунтаваў гэтую прапанову. Пачалася бурлівая дыскусія, падчас якой выступілі 26 прамоўцаў. Частка ўдзельнікаў пасяджэння, найперш прадстаўнікі мінскіх гарадской і земскай груп, стаяла на пазіцыях захавання федэратыўнай сувязі з Расіяй і ў якасці галоўнага аргумента сваёй пазіцыі прыводзіла пункты рэзалюцыі Першага Усебеларускага з'езда, у якіх гаварылася пра неабходнасць гэтага. Іх апаненты цалкам слушна заўважалі, што ў сувязі з разгонам з'езда бальшавікамі названая рэзалюцыя так і не была цалкам прагаласавана, а адзіным легітымным рашэннем з'езда было стварэнне выканкама яго рады, які і стаў асновай для пазнейшага ўтварэння Рады БНР.

Надыходзіла раніца дня 25 сакавіка, а атмасфера ў зале пасяджэння на вуліцы Захар'еўскай усё больш наэлектрызоўвалася…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**

ПОСТАЦІ

# ЗОСЬКА ВЕРАС
## была жывым сімвалам БНР

Тая паездка ў Вільнюс запомнілася мне на ўсё жыццё. Яе ініцыятарам выступіў гісторык Анатоль Сідарэвіч, і яшчэ ў цягніку ён пачаў мяне, першакурсніка філфака БДУ, адукоўваць. Каб, значыцца, я хоць збольшага ўяўляў, да каго мы едзем, і трымаўся ў межах адпаведнага этыкету.

Голас у майго спадарожніка гучны, і праз якую гадзіну не толькі я, але і паўвагона пасажыраў ведалі, хто такая Зоська Верас – акурат да яе мы і накіроўваліся. Па-першае, сяброўка Максіма Багдановіча, праводзіла яго ў апошняе падарожжа ў Ялту. Па-другое, аўтарка "Нашай Нівы" (тае, "першай беларускай газеты з рысункамі"), дзе яе вершы падпісваў у друк сам Янка Купала. Па-трэцяе, рэдактарка адразу трох папулярных у Заходняй Беларусі часопісаў – дзіцячых "Заранкі" і "Пралеска" і спецыялізавана-пчалярскай "Беларускай борці". Па-чацвёртае, жонка міністра ў першым беларускім савецкім урадзе Фабіяна Шантыра. Па-пятае, складальніца "Беларуска-польска-расійска-лацінскага бата-нічнага слоўніка", які даўно варта перавыдаць і вывучаць па ім праўдзівыя беларускія назвы розных раслін. Па-шостае, чалавек з фенаменальнай памяццю, да якога ездзяць кансультавацца супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". Па-сёмае…





Зоська Верас чакае гасцей. 1978 год. Фота С.Панізніка.



БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА.
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ.
" " Чэрвеня 1918 г.
№ 847
Места Менск.

ПАСЬВЕДЧЭННЕ.
Гэтым сьведчым, што уласьніца гэтаго грамадзянка-беларуска Гродзенскай губ., Сакольскаго павету Людвіка Антонова СІВІЦКА з'яуляеща членам Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.
Старшыня Народнаго Сэкрэтарыяту
Загадчык Справау

Weissruthenische Volksrepublik
Volkssecretariat
Den Juni 1918
№ 847
Minsk

Ausweis
Hiermit wird bescheinigt, dass die Inhaberin dieses die weissruthenische Bürgerin aus dem Gouvernement Grodno Kreis Sokolka Ludovica Antonowa Siwitzka Mitglied der Rada der weissruthenischen Volksrepublik ist.
Vorsitzender des Volkssecretariats
Kanzleichef

Беларуская Народная Рэспубліка
Народны Сэкрэтарыят

Пасведчанне сябра Рады БНР Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас). 1918 год. Фота А.Смаленчука.

Тут раптам мой спадарожнік прыцішыў голас, і паўвагона зацікаўленых пасажыраў так ніколі і не даведаліся, што зяцем у Зоські Верас – сын прэм'ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча, ды і сама яна мела дачыненне да абвяшчэння БНР. Сказанае шэптам запала ў душу хіба найглыбей, і я, таксама шэптам, пачаў выпытваць у свайго суразмоўцы падрабязнасці.



Людвіка Сівіцкая (яшчэ не Зоська Верас) у нацыянальным строі. Гродна, 1910 год.

1987 год, летні людны цягнік на Вільнюс, і жаўтароты першакурснік хоча пачуць падрабязную гісторыю БНР… Зразумела, ніякіх падрабязнасцяў я тады не дачакаўся. Наадварот, атрымаў строгую інструкцыю ў выкшталцонай форме: маўчы, як сыч у карчы. Маўклівым сычом мне быць не хацелася, але мусіў падпарадкавацца.

Варта нагадаць, што перад нашым падарожжам у Вільнюс мінскі часопіс "Политический собеседник" якраз выкрыў чарговых "нацыяналістаў", якія групаваліся вакол асінага гнязда, звітага ў ваколіцах былой сталіцы ВКЛ. Паводле сцвярджэння часопіса атрымлівалася, што гаспадарамі таго гнязда былі яны, Зоська Верас і яе зяць Лявон Луцкевіч. У сувязі з чым дарогу да іхняй хаты шмат хто раптоўна і надоўга забыў. А тут маюць заявіцца два празмерна цікаўныя госці… "Запомні: пра БНР – ні слова, іначай нас проста вытураць з хаты", – папярэдзіў мяне Анатоль Сідарэвіч і працягнуў сваю падарожную лекцыю, абмінаючы палітыку. Усе яе тэзісы за даўнасцю часу я ўжо не прыгадаю. Іх было шмат. З чаго вынікала, што чакае мяне сустрэча з постаццю насамрэч гістарычнай.

І вось мы з Анатолем Міхайлавічам прыязджаем тралейбусам на ўскраіну Вільнюса і ідзём па чыгуначным палатне ў кірунку Панарскага лесу. Між блiскучых рэек палахліва прыгінаюць галовы прыземістыя рамонкі, чыгунка на даляглядзе пакалыхваецца ў спякотным марыве. У лесе наш рух запавольваецца – проста абапал сцежкі, як хто крапідлам пакрапіў, чырвоныя россыпы суніц. Смакуючы іх, мы і дабіраемся да партызанскага (такое першае ўражанне) жытла – хаткі-мазанкі. Нас сустракае Лявон Луцкевіч, ягоная жонка Галіна частуе нас чарніцамі з малаком. Пачастунак зацягваецца – Зоська Верас, нягледзячы на свой даўно разменены дзясяты дзясятак, заседжваецца дапазна, таму з раніцы яе стараюцца не будзіць. Мы бавім час на падворку, дзе Лявон Антонавіч паказвае нам жыццёва неабходную ў сухаземным лесе сістэму вадасцёкаў (на сядзібе не было калодзежа, карысталіся дажджавой вадой).

Неўзабаве пані Галіна кліча нас у хату – маці прачнулася і гатова з намі сустрэцца. І вось – зацішная бакоўка, нейкія старыя камоды з шуфлядамі і ў зручным фатэлі – **яна**. Маленькая, прыветлівая, з маладымі вачыма. Памятаючы інструкцыю, я маўчу, а Анатоль Сідарэвіч свае пытанні падае ў выглядзе цыдулак, напісаных вялікімі літарамі (Зоська Верас на той час мела праблемы са слыхам). Я назіраю, слухаю і думаю: колькі падобных паломнікаў прыняла яна за сваё жыццё і перад кожным дапытлівым суразмоўцам браму скарбаў сваіх адчыняла!

Адолеўшы збянтэжанасць, я, таксама цыдулкай, пытаюся штосьці пра Максіма Багдановіча. І – льецца нетаропкі расказ пра мінскае Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, пра тое, як паэт упершыню публічна чытаў "Пагоню", а Аркадзь Смоліч назваў твор шэдэўрам... Расказваючы пра тую ці іншую падзею, прыгадваючы кагосьці, Зоська Верас просіць дачку адчыніць пэўную шуфляду, дастаць патрэбны альбом ці пакунак, а пасля далікатна трымае іх на каленях – фотаздымкі і лісты ад Аркадзя Смоліча, Міхася Забэйды-Суміцкага, Ларысы Геніюш… Відно, што шматадрасная карэспандэнцыя гаспадыні хаты захоўваецца ў ідэальным парадку.

Забягаючы наперад, заўважу, што лістоў Зоська Верас за ўсё жыццё напісала больш за 6000. Сёння яны паступова публікуюцца, і з тых лістоў-успамінаў, нібы з мазаічных шкельцаў, паступова складваецца вялікая панарама беларускага жыцця XX стагоддзя. Скажам, беларускаму гісторыку з Варшавы Юрыю Туронку Зоська Верас дасылала звесткі пра міжваенную Вільню, пра трох братоў Іваноўскіх, якія ўзбагацілі сваёй дзейнасцю тры культуры – беларускую, польскую і літоўскую. Гродзенскай паэтцы Данyце Бічэль падказвала, як больш поўна і змястоўна паказаць жыццяпіс Максіма Багдановіча ў новастворанам у абласным цэнтры музеі. Дырэктару Маладзечанскага музея Генадзю Каханоўскаму расказвала пра свайго прадзеда Ігната Кулакоўскага, педагога і асветніка, які яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя дамагаўся ад царскіх улад вывучэння ў школах беларускай мовы…

А колькі Зосьцы Верас прыходзіла лістоў удзячнасці! Краязнавец з вёскі Германавічы Шаркоўшчынскага раёна Клімент Кожан пісаў: "Я ў сваім жыцці скончыў два ўніверсітэты – Беларускі дзяржаўны і Універсітэт Зоські Верас". Вольным слухачом таго "ўніверсітэта" быў і Уладзімір Караткевіч, які з удзячнасцю за прыгаданы слоўнік эмацыйна напісаў у адным з лістоў: "Вы наш батанічны бог!"

Слухаць Зоську Верас хацелася бясконца. Пісаць цыдулкі, назіраць, як яна падносіла іх ледзь не ўпрытык да вачэй, чытала і пачынала няспешна расказваць. Але мы мусілі памятаць, што шаноўнай гаспадыні ішоў ужо 95-ы год.

З 90-годдзем Зоську Верас прыехалі павіншаваць Вольга Іпатава, Сяргей Панізнік, Віталь Скалабан і Уладзімір Содаль. 1982 год.

Адыходзіў я тады з лясной хаткі-мазанкі з дзіўным пачуццём – быццам здзейсніў падарожжа ў мінулае на машыне часу. І доўга не мог апрытомнець, нават ужо сеўшы ў зваротны мінскі цягнік. Жалезныя колы разгоніста татахкалі на рэйкавых стыках, я чытаў вершаваны зборнік Зоські Верас "Каласкі", падараваны Анатолю Сідарэвічу, і думаў, што дарэмна яго аўтарку ў Мінску лічаць выключна дзіцячай пісьменніцай і крыніцай інфармацыі пра класіка Багдановіча. Пазней думкі тыя пацвердзіліся – калі я ўсур'ёз зацікавіўся мемуарнай і эпістальярнай спадчынай Зоські Верас, падрыхтаваў да друку дзве яе кнігі "Я помню ўсё" (2013) і "Пакуль рука пяро трымае" (2015).

У тых кнігах яна раскрылася напоўніцу – як сведка і хранікёр многіх гістарычных падзей: двух з'ездаў беларускіх нацыянальных арганізацый у 1917 годзе, з'езда Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў 1917-м. Яна была сакратаркай Вялікай Беларускай Рады, дэлегаткай Усебеларускага кангрэса (1917), была абрана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Напэўна, 25 сакавіка 1918 года Зоська Верас (пад сваім сапраўдным імем – Людвіка Сівіцкая) удзельнічала і ў векапомным пасяджэнні Рады БНР, дзе была абвешчана Незалежнасць.

Пра ўсе тыя – сёння ўжо гістарычныя – падзеі Зоська Верас напісала падрабязныя ўспаміны. Вось як запомніўся ёй Усебеларускі кангрэс, разагнаны бальшавікамі: *"З'езд адбываўся ў тэатры, і цяпер стаіць перад вачыма зала, перапоўненая не толькі дэлегатамі, але і зацікаўленай публікай. Стаіць перад вачамі склад-выгляд натоўпу: світкі, сярмягі, салдацкія шынялі. Першы, другі дзень дэбатаў. Знаёмыя твары, свае людзі. Тады я першы і адзіны раз бачыла Янку Купалу! Прыйшоў, пасядзеў каля дзвярэй на парапеце і пайшоў. На трэці дзень пачалі з'яўляцца чужыя людзі. Пераважна жанчыны ў скураных куртках: садзіліся паміж нашымі то тут, то там. Гэта насцярожвала. Але дэбатаў не спынялі. Увечары меліся скончыць дэбаты і падпісаць акт-рэзалюцыю. Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Як жа біліся сэрцы…*

*У гэты момант з грукатам урываецца ў залу аддзел узброеных салдат з латышом Рэзаўскім наперадзе. Рэзаўскі з рэвальверам у руцэ, цэліцца ў безабаронны прэзідыум. Загадвае сысці са сцэны. Салдаты выводзяць яго праз чорны ход. Пазасталыя не трацяць прытомнасці. Маментальна выбраны новы прэзідыум спяшыць выканаць задуманае. Усё паўтараецца ад пачатку: салдаты, Рэзаўскі, і – новы прэзідыум за дзвярамі. Нехта з выведзеных здолеў вырвацца, адчыніў дзверы і крыкнуў: "Не стойце перад вокнамі. У вокны накіраваны кулямёты!» Прэзідыума новага ўжо не выбіралі, рэзалюцыю падпісалі, выйшлі, не чакаючы на прымусовы вывад. На вуліцы – кулямёты, коннікі.*

*Пачалася работа падпольная. Збіраліся ў розных мышыных норках, змянялі ў апошнюю мінуту месца нарадаў. Урэшце быў выбраны 1-ы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі. У яго ўвайшлі: Смоліч, Серада, Варонка, Крэчаўскі, Аўсянік, Захарка, Заяц... Але гэта не цешыла. Відаць было, што гэта ўжо нічога не дасць. Што ж, Беларускай Рэспубліцы дачакаліся… Толькі не мы яе будавалі. Тварыла яе Масква. Увялі ва Урад і нашых: Жылуновіча, Чарвякова, Фальскага, Шантыра, Дылу. Але гэта часова – "на время, пока не пришлём своих". Горка, сумна, балюча. І сёння, як некалісь, г. зв. Беларуская Рэспубліка падпарадкуецца дырэктывам Масквы".*

Зразумела, за гэткія ўспаміны іх аўтарку за савецкім часам маглі і пасадзіць, абвінаваціўшы ў антысаветчыне. Таму на лішнія вочы запісанае не паказвалася, ляжала ў надзейным месцы да лепшых часоў. Тамсама ляжалі і бясцэнныя дакументы – пратаколы беларускіх з'ездаў, якія вяла Зоська Верас. Нават блізкім сябрам яна доўга не адважвалася іх даверыць. Прыглядалася – хто больш надзейны: Генадзь Кісялёў ці Віталь Скалабан. Сёння тыя пратаколы – на вагу золата для гісторыкаў.

На жаль, пры жыцці Зоська Верас заставалася як бы за спінамі сваіх больш вядомых сучаснікаў – Багдановіча, Ядвігіна Ш., братоў Луцкевічаў, гербоўнік гонару якіх быў яе заўсёдным і першачарговым клопатам. І гора было тым, хто з тых ці іншых прычын кідаў на іх цень, пляміў няпраўдай. Даставалася за мастацкія домыслы і Змітраку Бядулю, і Міхасю Машару, і Алегу Лойку, і супрацоўніку Гістпарта пры ЦК КПБ Мікалаю Сташкевічу. Пасля прачытання ягонай манаграфіі "Прысуд рэвалюцыі: крах антысавецкага руху ў Беларусі (1917–1925)" Зоська Верас на правах відавочцы апісаных там падзей вынесла свой прысуд: "Блытаніна! Фальш, які шкодзіць гісторыі".

Шмат хто за бескампрамісную адданасць праўдзе стараўся нашкодзіць і самой Зосьцы Верас. У Мінску доўга рыхтавалася да друку яе кніга, якую перадавалі ад рэдактара да рэдактара, цэнзуравалі і скарачалі. Урэшце, з выгляду як вучнёўскі сшытак, тая кніжка пад назвай "Каласкі" ў 1985 годзе выйшла ў свет, прынёсшы мала радасці пісьменніцы. Праўда, яе адразу ж прынялі ў Саюз пісьменнікаў, прызначылі пенсію, прапанавалі рыхтаваць другую кнігу.

Але замест яе Зоська Верас падрыхтавала кнігу Фабіяна Шантыра – свайго першага мужа, таленавітага публіцыста, расстралянага бальшавікамі яшчэ ў 1920 годзе… У выніку ні Шантыр, ні Зоська Верас у мінскія выдавецкія планы больш не траплялі. Пражыўшы без малога цэлы век (гады жыцця: 1892–1991), яна так і адышла ў лепшы свет аўтаркай адзінай дзіцячай кніжкі. І гэта пры тым, што пісала, пакуль бачылі вочы. Ужо на самым схіле жыцця імкнулася дагаварыць недагаворанае, дапісаць недапісанае. Амаль страціўшы зрок, на адмыслова разлінееных аркушах, звяртаючыся да аднаго з сяброў, навослеп выводзіла: "Чуюся вельмі дрэнна, але стараюся яшчэ сёе-тое зрабіць, пакуль рука пяро трымае".

Кажуць, што смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. У выпадку з Зоськай Верас падаецца, што ўсё ж выбіраюць. Яна памерла 30 кастрычніка 1991 года, не дажыўшы да свайго 100-годдзя 11 месяцаў і 8 дзён. Але – дачакаўшыся незалежнасці Беларусі. Перажыўшы сына Антона Шантыра, які вярнуўся з ГУЛАГа з хворым сэрцам. Прайшоў праз савецкі лагер і зяць Лявон Луцкевіч. Чаму не зачапілі яе, актыўную дзяячку нацыянальнага руху, якая да канца жыцця засталася вернай ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі? Ёсць тут нейкая таямніца. Зоську Верас нібы Бог збярог – як жывы сімвал БНР, каб праз яе злучыліся пакаленні, эпохі і стагоддзі, каб яна стала своеасаблівым мастком паміж БНР і Рэспублікай Беларусь.

Пражыўшы больш за семдзесят гадоў у Панарскім лесе пад Вільнюсам, Зоська Верас і свой апошні прытулак знайшла там, на прылясных Панарах. А лес у беларусаў з лёсам сугучны, і скрыжалі лёсу недвухсэнсоўна вызначаюць, дзе і што нам рабіць: у сасновым лесе маліцца, у бярозавым – любіцца, у дубовым – волю каваць, у яловым – душу д'яблу прадаваць. А вось у якім лесе беларусу паміраць – скрыжалі тыя не паведамляюць. Таму мне здаецца, што гаспадыня лясной хаткі неяк абмінула тыя замежныя сёння могілкі. Проста ў патрэбны момант выйшла за парог і – сама стала лесам, сунічнікам, верасам. Верас – верасам…

У гэтыя перадюбілейныя дні мы павінны ўдзячна згадаць яе, пісьменніцу і мемуарыстку Зоську Верас, ра́дную Беларускай Народнай Рэспублікі Людвіку Сівіцкую, якой адзінай з усіх першых незалежнікаў пашчасціла дажыць да таго часу, калі на карце свету – як спраўджаная мара многіх пакаленняў – нарэшце з'явілася Беларуская Дзяржава.

**Міхась СКОБЛА.**

МЕДДАВЕДКА

## Як нарадзіць лёгка?

***Упершыню ў Беларусь прыязджае прагрэсіўны акушэр-гінеколаг Мішэль Адэн з трэнінгам для ўсіх жадаючых.***

Вядомы спецыяліст, які 50 гадоў прысвяціў медыцыне і здолеў змяніць сусветную акушэрскую практыку, падзеліцца сваім досведам з беларусамі.

Трэнінг "Лёгкія роды і нараджэнне здаровага дзіцяці" – сацыяльна арыентаваны праект, арганізаваны ініцыятыўнай суполкай Грамадскага аб'яднання падтрымкі сям'і "Нараджэнне".

На трэнінгу знакаміты акушэр-гінеколаг, выкарыстоўваючы вынікі найноўшых даследаванняў у вобласці фізіялогіі родаў, дасць адказы на пытанні: чаму жанчыны нараджаюць цяжка? Як нарадзіць лёгка? Што трэба жанчыне ў родах? Як захаваць здароўе падчас цяжарнасці? Чаму ў сучаснага чалавека ўсё больш цяжкасцяў пры зачацці, выношванні, падчас родаў і ў грудным выкормліванні? Як падрыхтавацца да цяжарнасці і родаў? Калі аперацыя кесарава сячэння сапраўды неабходна, а калі яе можна пазбегнуць? Як забяспечыць здароўе нованароджанага? Якая роля бацькі і партнёра ў цяжарнасці і родах? Хто яшчэ можа дапамагчы жанчыне з пытаннямі цяжарнасці і родаў?

Трэнінг Мішэля Адэна будзе доўжыцца амаль на працягу дня 26 красавіка – з 10 да 19 – у «Прэзідэнт-гатэлі» па вул. Кірава, 18.




УВАГА!

## Розніцы ў часе з Літвой, Латвіяй і Украінай больш не будзе

25 сакавіка краіны ЕС, а таксама Украіна пяройдуць на летні час – стрэлкі гадзіннікаў будуць пераведзены на гадзіну наперад.

Такім чынам, гадзіннай розніцы ў часе з Літвой, Латвіяй, Украінай больш не будзе, а з Польшчай яна складзе не дзве, як зараз, а адну гадзіну.

ДА ВЕДАМА

## Каб не патрапіць на кручок…

*За лоўлю рыбы з 20 сакавіка можна атрымаць вялікі штраф.*

Для Брэсцкай і Гомельскай абласцей перыяд нерасту рыбы доўжыцца з 20 сакавіка да 18 мая. Для Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцей – з 1 красавіка да 30 мая. Для Віцебскай вобласці – з 10 красавіка да 8 чэрвеня.

Супрацоўнікі інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету нагадваюць, што рыбачыць можна толькі з берагу ў светлы час і толькі адной вудай з адным кручком ці спінінгам са штучнай прыманкай. Можна выкарыстоўваць адзінарны, двайны ці трайны кручок.

За выкарыстанне любых іншых прылад ці спосабаў – штраф ад 20 да 50 базавых велічынь (ад 490 да 1225 рублёў). А за рыбу, злоўленую забароненым спосабам, парушальнік выплаціць шкоду, якая ў перыяд нерасту вымяраецца трайной таксай. За шкоду на 100 і больш базавых велічынь могуць узбудзіць крымінальную справу.

ЧУЛІ?

## «Дармаедаў» могуць пазбавіць дзяржпадтрымкі пры будаўніцтве жылля

Пра гэта заявіў начальнік упраўлення жыллёвай палітыкі Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва **Аляксандр Горваль** на рэспубліканскім практычным форуме «Інавацыі ў будаўніцтве».

У прыватнасці, Горваль нагадаў, што ў дэкрэце №1, які ўнёс змены ў дэкрэт №3, *«ёсць такая пазіцыя – разгледзець пытанне аб абмежаванні аказання дзяржпадтрымкі грамадзянам, якія не заняты ў эканоміцы». «Цяпер гэтыя працэдуры адпрацоўваюцца, Мінпрацы адпрацоўвае катэгорыі грамадзян, якія будуць адносіцца да незанятых у эканоміцы».*

УСМЕШКА МАСТАКА




# Суд прызнаў ААТ «Магілёўрыба» банкрутам: завод ліквідуюць на працягу года

Эканамічны суд Магілёўскай вобласці прызнаў ААТ «Магілёўрыба» банкрутам з крэдыторскай запазычанасцю 2,7 млн рублёў. Паводле рашэння суда, прадпрыемства да 1 сакавіка 2019 года будзе ліквідавана.

Як было ўстаноўлена, за мінулыя пяць гадоў прадпрыемства працавала са стратамі, а з 2016 года прыпыніла сваю дзейнасць і распусціла работнікаў. Апошнія некалькі гадоў прадпрыемства існавала, здаючы ў арэнду складскія памяшканні і халадзільныя камеры.

У народзе кажуць: рыба гніе з галавы. У дадзеным выпадку – загніванне рыбы адбылося з-за пустых галоў тых, хто ўвесь гэты час кіраваў адкрытым акцыянерным таварыствам "Магілёўрыба".

ВЯРТАННЕ

## Пятае прышэсце Аляксандра Глеба

Учора вядомы футбаліст падпісаў кантракт з барысаўскім БАТЭ.

Апошнім часам Аляксандр шукаў працу ў Казахстане, але ў "Кайраце" пасля прагляду беларускага іграка ад яго паслуг адмовіліся.

А вось у БАТЭ вырашылі не раскідвацца такімі кадрамі. Дарэчы, гэта ўжо пятае прышэсце Глеба ў барысаўскі клуб.

**Віктар ШПАК.**

ЧУЛІ?

## Надзею Саўчанка арыштавалі

Пасля эмацыянальнага выступлення генеральнага пракурора Юрыя Луцэнкі, які дэманстраваў таксама відэазапісы, якія сведчылі, што дэпутат Саўчанка нібыта рыхтавала тэрарыстычны акт у будынку парламента, Вярхоўная Рада Украіны прагаласавала за зняцце з яе дэпутацкага імунітэту. Надзея Саўчанка была арыштавана.

Стаўленне да арышту Саўчанка ва ўкраінскім грамадстве рознае. Частка лічыць яе сапраўднай гераіняй, частка ставіцца да яе як да замаскіраванай агенткі Крамля. Хутчэй за ўсё, рашэнне аб арышце Саўчанка было прынята пасля таго, як яна ў сераду пацвердзіла свой намер балатавацца ў прэзідэнты.

НЕ ПРАПУСТИТЕ!

# В Минск вновь прибыл Александр Исачев

Выставку полотен необычного художника Александра Исачева организовал один из почитателей его таланта, его верный сподвижник – известный белорусский художник и коллекционер Олег Орлов. Несколько лет назад его стараниями издан уникальный фотоальбом, в котором представлено творчество Александра Исачева.

Экспозиция размещена в двух залах: в первом представлена графика, во втором – художественные полотна. Информационные материалы рассказывают о трагической судьбе самобытного художника из Речицы, признанного за рубежом (каждая его картина здесь оценивается не меньше чем в 100 тысяч долларов) и, к сожалению, все еще не понятого и не оцененного по достоинству на родине.

Напомню, что впервые об Александре Исачеве заговорили в 1987 году, после публикации в двух газетах одновременно («Звязда» и «Советская Белоруссия», 15 ноября 1987 года) распространенного по каналам БЕЛТА очерка «Мастер и Афродита» (его можно прочесть на выставке). Первую и последнюю прижизненную экспозицию работ Александра Исачева, организованную в районном Доме культуры Речицы, посетили 20 тысяч человек. Через день после ее закрытия художник при невыясненных обстоятельствах умер в своей мастерской. Выставку, организованную вскоре после его кончины в минском Дворце профсоюзов, посетили свыше 200 тысяч человек. По свидетельству газеты «Советская Белоруссия» (вырезка из этой публикации также есть в галерее) чтобы попасть в зал, пришлось простаивать в очереди почти полдня. С триумфом прошел по кинотеатрам СССР фильм «Не плачьте обо мне» режиссера Анатолия Алая, который и по сегодняшний день остается в истории документального кино Беларуси как самый массовый.

Даже после смерти Александра Исачева злой рок продолжает преследовать его. По неофициальной информации, руководство Художественного музея Беларуси категорически отказалось предоставить свои площади для экспозиции картин все еще опального художника. Говорят, неизвестными лицами даже предпринимались попытки воспрепятствовать выставке его работ в обозначенной выше галерее…




Выставка Александра Исачева проходит в Минске по проспекту Независимости, 58/1, помещение 6, и продлится до 4 мая нынешнего года. Она открыта с 10.00 до 19.00, без выходных.

Здесь можно также приобрести документальную повесть «Восхождение на Голгофу. Жизнь и смерть художника Александра Исачева» известного журналиста и писателя Игоря Осинского.

**Оксана МИЛЬГУЙ.**

ПРЫКРА!

## Палякаў нам не дагнаць…

Нядаўна намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны А.Румак паведаміў, што пераразлік пенсій калі і будзе, то, хутчэй за ўсё, у другім паўгоддзі. Наколькі яна вырасце, казаць рана: памер прыбаўкі будзе залежаць ад аб'ёму грошай, якія паступяць у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. У Польшчы чыноўнікі не апраўдваюцца і за крэслы так, як у нас, не трымаюцца, затое там пенсія большая за сярэднюю беларускую зарплату. А куды нас, людзей старэйшага ўзросту, прывялі за чвэрць стагоддзя?!

Зараз сярэдняя працоўная пенсія ў Беларусі складае 314 рублёў. А ў Польшчы ў пераліку на беларускія рублі – 1290. У Эстоніі, якая ўся менш за наш Мінск, – 980 рублёў.

**І.СЕРАДА.**

*г.Ліда.*

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ

# Пусть скорбный звон колоколов Хатыни предостерегает от повторения страшной трагедии

Хатынь – одна из визитных карточек Беларуси. Военных визиток страны. Скорбных визиток. Окрашенных в черный и красный – цвета гари, огня и крови. И не наша вина, что символом страны стал не какой-нибудь всемирно известный водопад или дорогущий "Диснейленд", а варварски сожженная карателями маленькая деревня. Немыслимо много – больше 900! – набралось у нас таких "огненных" деревень, уничтоженных вместе с жителями за время немецкой оккупации. Лишь не так давно Беларусь восстановила численность своего довоенного населения.



Теперь нам известно все до подробностей. Это было 22 марта 1943 года. Каратели окружили Хатынь. Людей согнали в колхозный сарай. Прикладами автоматов поднимали с постели больных, не щадили женщин с маленькими и грудными детьми. Сюда привели семьи Иосифа и Анны Барановских с 9 детьми, Александра и Александры Новицких с 7 детьми. Столько же детей было в семье Казимира и Елены Иотко, а самому маленькому исполнился только один год. В сарай пригнали Веру Яскевич с семинедельным сыном Толиком. Леночка Яскевич вначале спряталась во дворе, а затем решила укрыться в лесу. Пули фашистов не смогли догнать бегущую девочку. Тогда один из карателей бросился за ней, догнал и расстрелял на глазах обезумевших от ужаса родителей.

Единственным выжившим стал деревенский кузнец Иосиф Каминский. Он, обгоревший и израненный, пришел в сознание поздно ночью. Фашистов уже не было в деревне. Среди трупов односельчан Иосиф нашел своего сына, смертельно раненного в живот. Мальчик скончался на руках у отца.

Этот трагический момент из жизни Каминского был положен в основу идеи мемориального комплекса «Хатынь», который был создан в 1969 году белорусскими мастерами Сергеем Селихановым, Юрием Градовым, Валентином Занковичем и Леонидом Левиным. Вчера на месте мемориала прошел митинг-реквием, во время которого прозвучала Всебелорусская молитва о мире. Присутствовали официальные лица государства, а также послы иностранных государств.

На Западе часто удивляются военной патетике, которая до сих пор так плотно пронизывает нашу сегодняшнюю мирную жизнь. Но жгучая память, скорбный звон колоколов Хатыни предостерегает человечество от повторения страшной трагедии.

**Елена МОЛОЧКО.**

НУ И НУ!

## Брестские депутаты порадовали школьников?

У нас в Бресте новость номер один: школьникам разрешили бесплатно пользоваться услугами городского общественного транспорта. Такое решение на своей первой сессии принял Брестский областной Совет депутатов 28-го созыва.

Казалось бы, молодцы народные избранники! А то аж стыдно кому-то объяснять, что в нашем социально ориентированном государстве школьники, если не едут по маршруту дом–школа, должны платить за талончик. Но… оказывается, рано радовались. Бесплатно пользоваться услугами транспорта брестские школьники смогут только с 1 сентября по 30 июня. А на летних каникулах за проезд снова придется платить!

Если честно, я этому нисколько не удивилась. Потому что уже давно разуверилась в том, что наши депутаты (любого уровня) по-настоящему избраны народом и все свои решения принимают для народа. Если бы власть в Беларуси была народной, то и школьники, и студенты, и пенсионеры за проезд в городском транспорте не платили бы!

**Е.КОВАЛЬ.**

*Брест.*

ЛЕТАПІС ЗМАГАННЯ

# «Героі кнігі – простыя людзі…»

*Праваабаронцы прэзентавалі фотаальбом "Вясна-2017", прысвечаны падзеям гадавой даўніны.*




*"Героі кнігі – простыя людзі, якія выйшлі на акцыі супраць дэкрэта аб "дармаедах" вясной мінулага года, –* распавяла рэдактар выдання **Алена Лапцёнак**. *– Акрамя таго, вялікая частка фотаальбома аддадзена падзеям 25 сакавіка, калі было затрымана каля тысячы чалавек, а таксама абаронцам Курапатаў. Менавіта дзякуючы ім удалося прыпыніць дзеянне дэкрэта і адбіць пляцоўку каля Курапатаў, якая знаходзіцца ў ахоўнай зоне".*

Тэксты для фотаальбома пісалі **Алесь Бяляцкі** і **Алена Лапцёнак**, якія прасачылі ўсе асноўныя падзеі, што адбываліся на працягу 2017 года. У кнізе акрамя мірных акцый пратэсту ўвага нададзена і крымінальным справам, якія былі распачаты год таму. Зафіксавана 40 асоб, якія падвергліся крымінальнаму пераследу за сваю грамадскую і палітычную дзейнасць, 35 з іх праходзілі па справе "Белага легіёна".

– 2017 год быў напružаны і даў зусім іншыя лічбы ў параўнанні з папярэднім годам, – кажа праваабаронца **Алесь Бяляцкі**. – Толькі паводле нашых падлікаў, было больш за 250 адміністрацыйных арыштаў, у той час як у 2016 годзе – толькі адзін. Мы зафіксавалі 551 выпадак прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу за ўдзел у масавых мерапрыемствах. Агульная сума штрафаў складае больш за 135.000 еўра без уліку спагнанняў, якія былі накладзены на журналістаў. Хаця фактычна ўсе акцыі ў мінулым годзе былі мірныя. Мы не зафіксавалі ніводнай, дзе з боку дэманстрантаў ужывалася б грубая сіла. Сёння мы канстатуем: улады зрабілі больш жорсткай тактыку рэпрэсій.

**– Вярнуліся да той практыкі, якая была раней?**

– Лічу, што гэта было выклікана масавымі акцыямі, бояззю ўлады згубіць кантроль над грамадствам. І ўсё ж час гэта быў сур'ёзны выклік для праваабарончых арганізацый, таму што мы займаліся пацярпелымі людзьмі, аказвалі ім магчымую дапамогу.

Дарэчы, да гэтага часу працягваецца практыка пераследу грамадскіх актывістаў, і, як мы ведаем, зараз, напярэдадні Дня Волі, былі зноў затрыманы і адпраўлены на "суткі" Вячаслаў Сіўчык, Уладзімір Някляеў і Максім Вінярскі. Тое самае адбываецца і з пераследам незалежных журналістаў-фрылансераў, у гэтым годзе ім вынеслі ўжо дзесяць штрафаў.

**– На слыху і гучныя палітычныя справы…**

– У мінулым годзе была "справа патрыётаў", па якой праходзіла 35 чалавек. Яе закрылі, але ў гэтай сітуацыі вось што абурае: пасля таго як людзей выпусцілі на волю і такім чынам пацвердзілі, што яны невінаватыя, улады нават прабачэння не папрасілі ў тых, каго трымалі за кратамі. Я ўжо не кажу пра выплату нейкай кампенсацыі. Зараз, дарэчы, мы спрабуем дапамагаць тым фігурантам "справы патрыётаў", якія падалі іскі ў суд на атрыманне кампенсацыі за знаходжанне ў няволі. Нехта з-за гэтага страціў працу, хтосьці займеў іншыя праблемы… І пры гэтым улады зрабілі выгляд, як быццам год таму нічога і не было. Вось, напрыклад, фігураваў у справе аўтамат, яго паказвалі па тэлебачанні. Захоўванне зброі – гэта ж сур'ёзнае абвінавачанне! Але, як толькі справу закрылі, знік і аўтамат. Куды ён растварыўся? Але тут усё проста. Гэтыя міфы ствараюцца спецслужбамі дзеля пераследу грамадскіх актывістаў. І, на жаль, яны сталі рэаліямі нашага жыцця.

Але ёсць яшчэ і "справа прафсаюзаў", расследаванне па якой працягваецца. І тут мы, безумоўна, бачым прэсінг у дачыненні да незалежнай арганізацыі. Такім чынам улады распаўсюджваюць у адносінах да беларускай грамадзянскай супольнасці пэўны сігнал страху, з тым каб перашкодзіць дзейнасці найбольш актыўных арганізацый…

– Гэта ўсё адлюстравана ў фотаальбоме, – дадае праваабаронца. *– Спадзяюся, што дзякуючы выдатнай працы фатографаў гэтая кніга не будзе сумнай, а яе можна будзе паглядзець і ўсвядоміць маштабы рэпрэсій, якія ўлады ўжываюць у дачыненні да грамадзянскіх актывістаў. А мы будзем працягваць сваю дзейнасць, свае інфармацыйныя праекты, маніторыць сітуацыю і расказваць людзям праўду.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВІНШУЕМ!

# Нашы ў космасе!

21 сакавіка на Міжнародную касмічную станцыю адправіўся новы экіпаж, у складзе якога касманаўт «Роскосмоса» Алег Арцем'еў (на фота ў цэнтры). Высветлілася, што ў Арцем'ева беларускія карані.



Яго бацька **Герман Арцем'еў** – беларус, нарадзіўся ў Браслаўскім раёне. Зараз бацькі Арцем'ева жывуць у Віцебску. Алег жа ў свой час адслужыў у савецкім войску ў Вільнюсе і працаваў электраманцёрам у Таліне. Пасля ён пераехаў у Расію, скончыў Маскоўскі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт імя Баўмана, працаваў у ракетна-касмічнай карпарацыі "Энергия", у 2009-м на выдатна скончыў Расійскую акадэмію дзяржслужбы пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі. У 2003 годзе Алега Арцем'ева залічылі ў атрад касманаўтаў.

Першы палёт Арцем'ева ў космас адбыўся ў 2014 годзе (у сакавіку–верасні). У 2016 годзе стаў Героем Расіі.

Алег Арцем'еў позна стварыў сям'ю – у 39 гадоў. У яго ёсць сын Савелій. Свой палёт і працу ў космасе ён збіраецца асвятляць на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте». Дарэчы, у складзе экіпажа разам з Арцем'евым астранаўты NASA **Эндру Фойстэл** і **Рычард Арнальд.**

РАССЛЕДОВАНИЕ

# Украина: коррупция убивает?

В минувшую среду в Николаеве простились с Владиславом Волошиным. 29-летний отец двоих малолетних детей, в прошлом летчик-штурмовик, свел счеты с жизнью, застрелившись дома из пистолета.

Владислав Волошин до января 2017 года служил в армии, совершил 33 боевых вылета. В августе 2014 года, штурмуя позиции российских оккупационных войск, был сбит, катапультировался. Приземлившись на оккупированной территории, четверо суток с поврежденной рукой, обходя позиции противника, пробирался на территорию, подконтрольную Украине. Именно его в России обвинили в уничтожении малайзийского пассажирского «Боинга». Международная следственная группа доказательств причастности Волошина к сбитому самолету не обнаружила.

Майор Владислав Волошин, кавалер ордена «За мужество», будучи заместителем командира эскадрильи, в прошлом году со скандалом покинул службу, выразив недовольство состоянием материального обеспечения украинских военных, качеством летной подготовки, низкими зарплатами и неуважительным отношением вышестоящего командования к своим подчиненным. По словам Волошина, обмундирования не хватало: *«Обмундирование летчика очень специфично, дабы сохранить его жизнь и целостность матчасти. От него зависит безопасность полетов. Комбинезоны из легко рвущегося, быстро снашивающегося, хорошо горящего материала. Про летные ботинки вообще молчу (не выдержав, купил белорусские через интернет). Доводилось летать в берцах, иногда кроссовках. Защитный шлем и маски новые – закуплены волонтерами в РФ. Как и GPS-навигаторы»*.

Уйдя из армии, в июле 2017 года был назначен на должность заместителя генерального директора Николаевского международного аэропорта. Что вроде очень неплохо для 28-летнего отставного военного. А с другой стороны, при существующей коррупции, уничтожающей государство изнутри, – это назначение стало для него фатальным.



По словам начальника николаевской милиции Юрия Мороза, следствие рассматривает пять версий: *«Конфликт на работе, семейные неурядицы, самоубийство, совершенное после прохождения службы в ВСУ* (посттравматический синдром. – **Прим. ред.**)*, несчастный случай при обращении с огнестрельным оружием и самоубийство, совершенное в состоянии душевного волнения»*. Учитывая резонанс, николаевская полиция приняла к расследованию и версию доведения до самоубийства: эту версию отстаивают общественность и некоторые журналисты, утверждая, что бывший летчик был доведен до самоубийства руководителем Николаевской области Алексеем Савченко и его подручными депутатами из Верховной Рады и облсовета от партии «Блок Петра Порошенко».

Вкратце история такова: на перераспределении бюджетных денег кто-то решил подзаработать. Международный аэропорт требует многомиллионных инвестиций, тем более, когда нужно начинать с нуля. Близкая к властям компания «честно» выиграла тендер на ремонт забора вокруг территории аэропорта. Но по факту без официально утвержденного проекта, без сметы, без проведения тендера начала делать полную реконструкцию терминала аэропорта.

Вскоре была опубликована аудиозапись того, как депутаты совместно с руководством области в жестком оскорбительном тоне требуют срочно организовать тендер под эту выполняющую работы компанию. При этом гендиректор предприятия пытается от этого решения уклониться, ссылаясь на то, что это незаконно и нет разработанной документации. Участником слитого в сеть «совещания» был и Волошин.

Через несколько месяцев прямо в кабинете главы администрации области Алексея Савченко строптивый директор был арестован якобы за то, что пытался дать взятку хозяину кабинета. Сразу после этого Владислав Волошин становится и.о.гендиректора и объявляет злополучный тендер. Его выигрывает малоизвестная компания. А у нового директора начинают вымогать подписи под актами ремонтных работ, незаконно выполненных предыдущей компанией.

Далее компетентные государственные органы усмотрели правонарушения и потребовали отменить результаты тендера. Владислав Волошин хотел уволиться, но губернатор продлил контракт и не предоставил ему такой возможности. Из опубликованной после смерти переписки между погибшим и его заместителем видно, что между Волошиным и руководителем области существовал конфликт, Владислав осознавал, что нарушил закон, и сложившаяся ситуация заставила его задуматься о суициде. Что и произошло.

Кто же такой руководитель Николаевской областной администрации, у которого стреляются герои войны? Экс-сотрудник МВД, служивший в Киевском УБОП вместе с бывшим генпрокурором Виталием Яремой и начальником управления государственной охраны Валерием Гелетеем. Ушел он из МВД в начальники управления безопасности банка, за которым стоял Юрий Иванющенко, бизнесмен, имевший общие дела с беглым президентом Януковичем. Проработав пару лет, новоявленный «банкир» делает потрясающую карьеру, становится уже сам руководителем, а потом и владельцем одного из банков, который относительно недавно, оперируя «мутными» активами, благополучно обанкротился.

При президенте Викторе Януковиче Савченко назначается руководителем госконторы «Укрспирт», но долго там не задерживается. После революции 2014 года избирается от Блока Петра Порошенко в парламент, а оттуда попадает в кресло губернатора Николаевской области, выиграв конкурсный отбор, хотя в небольших заданиях делал несколько десятков орфографических ошибок.

Не так давно прокурор Генеральной прокуратуры Украины Алексей Донской, расследующий преступления на Майдане, обмолвился: он не отрицает, что некоторые представители нынешней власти покровительствуют «титушкам», которые во время революции убивали людей. Среди прочих он имел в виду и Алексея Савченко.

С таким «опытным кадром» пришлось столкнуться молодому офицеру, герою войны, мало сведущему в «мирной» жизни. Пройдя войну, выполняя связанные с риском для жизни боевые задачи, попав при этом в экстремальную ситуацию на территории врага, офицер Владислав Волошин выжил. А на гражданке, оказавшись в специфической ситуации, – нет.

Остается надеяться на следствие, которое могло бы установить истину. Но следствие ведет начальник областной полиции Юрий Мороз, который служил с губернатором Савченко в одном УБОП, а потом – в банке. Контролирует следствие генеральный прокурор Юрий Луценко – бывший лидер фракции Блока Петра Порошенко в Верховной Раде, депутаты которой обеспечивают поддержку Савченко. Как вы думаете, какой будет результат?

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

У ДВУХ СКАЗАХ

Міністэрства абароны Ізраіля прызналася ў тым, што ў 2007 годзе знішчыла падчас авіяналёту будынак у Дайр-Эр-Заўры, дзе мог знаходзіцца сірыйскі ядзерны рэактар. Зараз інфармацыя была рассакрэчана, каб папярэдзіць Іран, які працягвае працаваць над уласнай ядзернай праграмай: нешта падобнае можа здарыцца і з іх аб'ектамі.

***

Старэйшы сын забітага падчас рэвалюцыі 2011 года лівійскага лідара Муамара Кадафі Сэйф аль-Іслам пацвердзіў свой намер вылучацца на выбарах прэзідэнта Лівіі, якія мусяць адбыцца ў сярэдзіне гэтага года. Яму 44 гады, ён вучыўся ў Аўстрыі і Вялікабрытаніі, з'яўляецца інжынерам-архітэктарам і мае навуковую ступень доктара філасофіі.

***

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Дональд Трамп павіншаваў Уладзіміра Пуціна з пераабраннем на пасаду прэзідэнта Расійскай Федэрацыі. Як стала вядома сродкам масавай інфармацыі, ён зрабіў гэта насуперак рэкамендацыям сваіх дарадцаў, за што быў жорстка раскрытыкаваны вядомым "ястрабам" сенатарам Джонам Макейнам.

***

Польскія нацыяналісты падчас мітынгу каля амбасады Украіны ў Варшаве спалілі партрэты Сцяпана Бандэры і Рамана Шухевіча, а таксама чорна-чырвоны сцяг Украінскай паўстанцкай арміі. Дэпутат сейма Польшчы Роберт Вініцкі выкрыкваў падчас мітынгу: "Мы пытаемся ў польскага ўрада, што ён робіць, калі ва Украіне ствараецца культ забойцаў, калабарантаў Гітлера?!"

***

У Італіі падлічылі тэрмін чакання ў чарзе да вузкіх спецыялістаў у дзяржаўных медыцынскіх установах. Ён складае да 65 дзён (прыкладна столькі ж і ў недзяржаўных клініках) і за тры гады павялічыўся ў сярэднім на 20–27 дзён.

***

Адміністрацыя Стамбула па просьбе амбасады Азербайджана забараніла дэманстрацыю кінастужкі "Ева", якую меліся паказаць падчас жаночага фестывалю, арганізаванага Французскім інстытутам. Фільм зняты армяна-іранскім рэжысёрам Анаіт Абад і распавядае пра лёс жанчыны, якая збегла пасля смерці мужа ад ягоных сваякоў і схавалася ў адным з сёл Нагорнага Карабаха.

***

Вядомага фізіка-тэарэтыка Сцівена Хокінга пахаваюць напрыканцы сакавіка ў славутым Вестмінстарскім абацтве побач з магіламі Ісаака Ньютана і Чарльза Дарвіна. Хокінг праславіўся не толькі сваімі працамі па даследаванні сутнасці часу, але ж і тым, што большую частку жыцця працаваў, знаходзячыся ў інвалідным крэсле з нагоды паралічу.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# «Песня пра зубра»



Непрыцьмелай дагэтуль паэтычнай старонкай нашай гісторыі справядліва лічыцца амаль 500-гадовай даўнасці паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Вялікі паплечнік Францыска Скарыны Мікола Гусоўскі, якога ставілі ўпоравень з выдатным італьянскім паэтам эпохі Адраджэння Петраркам, узяўся давесці да еўрапейскага свету, што існуе такі запаведны і запаветны край, дзе вольна пачуваецца не толькі цар тутэйшай прыроды зубр, але і гаспадар усяго гэтага – тутэйшы чалавек. А дзяржава тая – гэткая ж цывілізаваная, як і іншыя. І завецца яна Вялікім Княствам Літоўскім.

Гусоўскі ствараў паэму на лацінскай мове далёка ад беларускіх краявідаў – «на зямлі апенінскай». Паэту пашэнціла паблукаць па свеце, пабачыць чужыя краіны, пазнаёміцца з іншымі народамі. Але ўражанні аб дамашнім былі такой моцы, што ён пакляўся: «Я прысягаю: заўжды, да апошняга слова пець толькі праўду». Таму паэма моцна дыхае настальгіяй па родным, дарагім і незабыўным. Бо як бы ні было добра сярод чужых людзей, а свая зямелька жыла ў душы сапраўднай песняй.

Першым памкненнем Гусоўскага было паказаць моц, сілу і прыгажосць беларускага зубра. Але для сапраўднага майстра гэтага аказалася мала. Аповед перарос у хваласпеў роднаму краю, яго прыродзе, людзям і ўладарам. Шмат у паэме аўтабіяграфічнага. З тэксту бачна, што Гусоўскі належаў да адважных і спрытных паляўнічых і таму «налаўчыўся распісвацца лукам». А «ўмельства сваё праявіць і ў пісьменстве прыгожым» вырашыў дзеля таго, каб распавесці пра справы і дзеі на землях Вялікага Княства. Ён меў на гэта і права – як мастак слова, і падставы – «край свой (цяпер ужо ўласнасць Кароны) калісьці я перамераў уздоўжкі і ўпоперак пешшу». І спрыт свой пераняў ад старэйшых – «змалку ад бацькі вучыўся». Ды яшчэ, вядомая рэч, спасцігаў мудрасць чалавечую, назапашаную іншымі.

*Свет даўніны вывучаў*
я па кнігах славянскіх,
Граматах рускіх,
кірыліцай пісаных вязкай.

Дык чаму ж было гэткаму абазнанаму ўлюбёнцу ў свой край і ў сваіх людзей не ўзяцца за справу летапісання іхніх жыццёвых варункаў і вызначэння лёсу і месца Вялікага Княства на гістарычных еўрапейскіх скрыжаваннях? З вартай бацькаўшчыны ўзнёсласцю і ўзрушанасцю выспеўвае ён моц, прыгажосць, непаўторнасць адзінага на свеце роднага краю. «Песня пра зубра» – першы буйны рэалістычны і эпічны твор пра нашу краіну.

А хто ж ён сам – Мікола Гусоўскі? Паэт? Паляўнічы? Дыпламат? І тое, і другое, і трэцяе. Нарадзіўся ў 1470-я гады, верагодна, у в.Уса (Усава) у цэнтральнай Беларусі, у сям'і лоўчага. Памёр каля 1533 года ў Польшчы. У сталыя гады нёс службу пры двары свайго мецэната плоцкага біскупа Эразма Вітэлія, які ў 1492–1499 гадах меў пасаду сакратара велікакняскай канцылярыі ў стольнай Вільні.

У 1518 годзе разам з пасольствам Вялікага Княства і Польшчы Гусоўскі выправіўся да Папы Льва X у Рым, дзе прабыў пяць гадоў. Менавіта тут напісаў «Песню пра зубра» і 11 вершаў. Першы паэтычны зборнік з гэтымі творамі выйшаў у тагачаснай польскай сталіцы Кракаве ў 1523 годзе. Да беларусаў жа выдатны твор дайшоў толькі праз 444 гады. У 1967 годзе на беларускую мову паэму пераўвасобіў Язэп Семяжон.

Як сапраўдны патрыёт зямлі, як дасканалы мастак, Мікола Гусоўскі пісаў свой твор памяццю сэрца. Вобраз магутнага звера, які захаваўся толькі ў спаконвечных беларускіх пушчах, аўтару патрэбны, каб гэтак жа годна ўзвысіць і ўславіць сапраўднага гаспадара тутэйшай зямлі – Вітаўта Вялікага. Гэты еўрапейскага маштабу валадар кіраваў магутнай дзяржавай за 100 гадоў да напісання паэмы. Ды справы ягоныя мелі такую вагу і значнасць, што з часам зусім не прыцьмелі, а набылі яшчэ большы розгалас.

Нездарма «княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы росквітам Княства Літоўскага, нашага краю, і называюць той век залатым». Гэты магутны дзяржаўца і разумны гаспадарнік «перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна ставіў багацце духоўнае – злата дзяржавы».

Зусім апраўдана і справядліва «славу і ўхвалу вялікаму князю аддаў» Мікола Гусоўскі. А разам з ім і ўсім тым, хто дбаў, дбае і дбацьме пра сваіх людзей і свой край, пра роўны і варты яго дзяржаўны пасад між народамі. І гэты край Мікола Гусоўскі назваў коратка і выключна дакладна – краем, «дзе пачатак пачаткаў сэнсу жыцця і пачуцця святога – радзіма».

Паэт рэзка выступаў супраць усяго ненатуральнага, звыродлівага, прыкрага, што здаралася на велікакняскіх землях, супраць чалавечага неразумення і непаразумення. Таму і біў «у сваё звонкае слова», узбройваў «народы супраць разбою», супраць тых, «чыёю злачыннай рукою губяцца сувязі братнія», каго «непакоіць… сверб панавання». Таму і ўзвышаў сваё гучнае слова супраць тых, «хто вострыць мячы пастаянна… на суседа», супраць братазабойства, грызні, міжусобных войнаў, бо «б'юцца князі-ваяводы, а стогнуць народы». Усхваляваныя радкі прысвячае аўтар асуджэнню гэткіх разбояў, бо разумее: дабро, пасеянае ў душах людзей, і праз вякі прарастае дабрынёй, спрыяннем, годнасцю, што ўзвышае чалавека ў чалавеку.

НА СУВЯЗІ – САФІЯ

# Балгарскія турмы вытрывалі

Балгарыя, цалкам магчыма, была напярэдадні чарговага крызісу. Не парламенцкага, але ж такога, які мог вельмі паўплываць на будучыню краіны. Справа ў тым, што акцыі пратэсту абвясцілі… турэмныя наглядчыкі. Яны палічылі, што іх работа – сапраўды адказная і нервовая – аплачваецца несуразмерна нізка. І прафсаюз супрацоўнікаў турмаў абвясціў агульнадзяржаўную акцыю пратэсту.

Цяжка меркаваць, што магло стаць вынікам такой акцыі, у якой апроч Сафіі збіраліся браць удзел супрацоўнікі вязніц Врацы, Ловечы, Старой Загоры і Пазарджыке, але ж урад Бойка Барысава вырашыў не рызыкаваць. Было заяўлена, што Міністэрству правасуддзя выдзеляць дадаткова каля 15 мільёнаў леваў (7,5 мільёна еўра) па раздзелах "Выкананне пакаранняў" і "Ахова". Частка з іх пойдзе на павышэнне заработнай платы наглядчыкаў турмаў.

Цікава, хто наступны абвесціць у Балгарыі аб падрыхтоўцы да забастоўкі? А што, калі санітары псіхіятрычных лячэбніц? Уяўляеце магчымыя наступствы, калі ўрад не пагодзіцца з іх патрабаваннямі? Лепей не рызыкаваць!

СКАНДАЛ

# «Ваўкі» засталіся без колаў

Байкер-клуб "Начныя ваўкі", вядомы сваёй падкрэсленай адданасцю Уладзіміру Пуціну, распачаў матацыклетны прабег па Паўднёвай Еўропе… без колаў! Ім не дазволілі прывезці матацыклы ў Боснію і Герцагавіну – былую югаслаўскую рэспубліку. Таксама да сталіцы Босніі і Герцагавіны горада Сараева (дарэчы, таго самага, дзе быў забіты нашчадак кароны Аўстра-Венгерскай імперыі, з чаго і пачалася Першая сусветная вайна) дабраліся толькі двое з планаваных удзельнікаў. Самому ж Аляксандру Залдастанаву, вядомаму пад мянушкай "Хірург", – кіраўніку клуба і даверанай асобе Пуціна падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў: улады Босніі і Герцагавіны наогул забаранілі ўезд на тэрыторыю дзяржавы, аргументуючы гэта тым, што іх матацыклетны прабег "прыніжае нясербскую частку грамадства краіны, усё яшчэ падзеленай пасля этнічнай вайны 1992–1995 гадоў, калі загінула больш за 100 тысяч чалавек". Рашэнне было прынята таму, што "ваўкі" збіраліся прыехаць у сербскі анклаў на тэрыторыі Босніі і Герцагавіны – Рэспубліку Сербскую – і ў яе сталіцы горадзе Баня-Лука абвясціць лозунгі аб адзінстве сербскага народа.

Паколькі завезці матацыклы ў Боснію і Герцагавіну таксама было забаронена, "ваўкі" планавалі вандроўку па ёй і, верагодна, па іншых краінах поўдня Еўропы ў… фургоне. І гэта пры тым, што іх прадстаўнікі напярэдадні прабегу абяцалі, што "ад ваўчынага рыку ўскалыхнуцца Балканы". Магчыма, менавіта дзеля таго, каб пазбегнуць землятрусу на Балканах, улады вырашылі не рызыкаваць.

Што зараз будуць рабіць "ваўкі" – пакуль не вядома. Не выключана, што ў наступны раз Балканы здрыгануцца не ад ваўчынага рыку, а ад выцця адчаю.

ВІНШУЕМ!

# Захапляцца, слухаць і любіць

## Паэту Генадзю Пашкову – 70!

Бацька будучага літаратара з той кагорты франтавікоў, якія цудам ацалелі ў крывавай калатнечы Вялікай Айчыннай, калі са ста мужчын, што нарадзіліся ў 1910–1920-х гадах "да родных ніў, да роднай хаты" вярнуліся толькі трое, і тыя нярэдка калі не калекамі, дык змарнелымі, адвыклымі ад мірнай працы.

Пётр Трафімавіч Пашкоў па дарогах шынельнага колеру спяшаўся ў свае чашніцкія Ліповічы на спадарожных грузавіках, падводах, а то і пешшу. Ён ужо ведаў: фашысты расстралялі бацьку, памёр ад стрэсу першынец Эдзік. Цудам удалося выжыць жонцы Марыі Харытонаўне і маленькай дачушцы Галі. Іх уратавала балота. Фашысты не палезлі ў смуродную гібельную твань, прытулак гадзюк, полчышчаў камар'я і мошак.

Сустрэча была, як у песні, са слязамі на вачах. Суровыя, бязрадасныя будні. Марыя Харытонаўна, якая да вайны скончыла Полацкае педвучылішча, вучыла дзяцей у пачатковых класах чытаць, пісаць, лічыць, вярнуўшыся са школы, шчыравала па гаспадарцы, а потым пры лямпе, а то і пры лучыне да поўначы правярала вучнёўскія сшыткі. Пятра Трафімавіча вяскоўцы абралі старшынёй калгаса. Зямлі – як мажнай кабеце сесці – адна вёсачка, а праблем – мех пад завязку. У гаспадарцы некалькі лядашчых коней (пусці павалюся!) і хударэбрых кароў, якіх хоць у патрон даі.

"Раскажы пра жыццё-быццё!" – прасіў у ліставанні да Пятра Трафімавіча брат Ягор, якога лёс закінуў у Ленінград.

"Дзень з алеем – два галеем", – не стаў маніць роднаму чалавеку Пашкоў.

23 лютага 1948 года Марыя Харытонаўна нарадзіла двойню: хлопчыка і дзяўчынку. Як падалося бацькам, дзяўчынка была ў адрозненне ад брацікa Гены наўздзіў моцненькая, быццам пралеска ў падлеску, дзе яшчэ там-сям не растаў снег, а хлопчык кволы.

"Хаця б выжыў!" – перажывалі бацькі. А здарылася наадварот: кароткім аказаўся век Волечкі – праз год яе не стала.

У многіх вёсках часта і дарослым, і дзецям прыдумваюць мянушкі, хоць і трапныя, але нярэдка грубаватыя. Генадзя наракі Падарожнікам. У два гады ён непрыкметна выбраўся з хаты і надоўга знік. Шукалі бацькі, сёстры Валя і Галя. Знайшлі каля пчалінага вулля. Над ім лятaлі і поўзалі па ім пчолы, але ніводная не ўкусіла бяскрыўднае дзіця. У няпоўныя пяць Гена заблукаў у льняным полі. Спрабаваў выбрацца, стаміўся, занямогся і заснуў. Спаў доўга. На гэты раз шукалі хлопчыка ледзь не ўсёй вёскай. Збіліся з ног дзясяткі людзей: галасілі маці і сястрычкі, кусаў да крыві вусны бацька. Дзіва што, у пасляваенных лясах вадзілася нямала ваўкоў і здзічэлых аўчарак. Яны кралі з двароў сабак, гусей, курэй, іншую жыўнасць, здаралася, нападалі на людзей. Але і гэтым разам, хоць апоўначы, адшукалі Гену.

Праўду кажуць: хвароба хоць не ўморыць, то скрывіць. Вайна, аднастайная цяжкая праца ў калгасе і на хатняй гаспадарцы канчаткова падарвалі здароўе Пятра Трафімавіча. "Туберкулёз, – канстатаваў мясцовы фельчар, – трэба добра харчавацца, ехаць на лячэнне ў Ялту ці Сочы". Вымучаная ўсмешка заблукала па твары пацыента. "Эх, братка, – сказаў лекару, – гавары, але не дагары! Які харч, які поўдзень? Хто ж дзяцей падымаць будзе?!" А тут яшчэ загад з раёна везці ў Ленінград бульбу. І ён павёз: паўгалодны, змарнелы, хворы. Брат Ягор ледзь пазнаў яго. На развітанне падарыў сціплы шэры касцюм і рэмень з бліщчастай спражкай. Не маглі ведаць браты, што расстаюцца назаўсёды.

Не стала Пятра Трафімавіча, калі яго сыну ішоў шосты годзік. Ён не разумеў, якая страшная бяда напаткала іх сям'ю. Ішло дзіцё за труною і шкадавала не толькі бацьку, але і бліщчастую спражку на ягонай папрузе.



Павучыцца ў Івана Пятровіча Шамякіна не зашкодзіць…

Марыя Харытонаўна засталася адна з дзвюма дочкамі і малым сынам. Жабрацкая зарплата настаўніцы пачатковых класаў. Клопаты па гаспадарцы. Вечная нястача. Гэта горкі лёс пасляваенных удоў. Яны не жылі – выжывалі. Расцілі дзяцей. Самі недаядалі, а кармілі, чым маглі, малечу, апраналі, перашываючы стар'ё, вучылі.



Неўзабаве сям'я пераехала на Смаргоншчыну. Маці настаўнічала. Дзеці вучыліся ў школе, памагалі Марыі Харытонаўне па гаспадарцы.

Генадзь, начытаўшыся патрыятычных кніг, у восьмым класе напісаў заяву ў ваенкамат – прасіў адправіць яго ў В'етнам. І аднойчы прыйшла позва. Нічога не сказаўшы маці і сёстрам, ён паклаў у торбу брус сала, паўбохана хлеба, выпечага на кляновых лістах, і падаўся ў дарогу.

Праўду кажуць: язык да Кіева давядзе. Стаміўся. Прысеў на парозе ваенкамата. Заўважылі. Прывялі да ваенкама. Паглядзець на "рамантыка" збегліся ўсе супрацоўнікі пашанотнай установы. Смяяліся да слёз.

– Сынок, – сказаў маёр, калі ўцякач з дому застаўся з ім сам-насам, – цябе з-пад шапкі не відаць, а ты на вайну сабраўся. Скончыш школу – я першы падпішу накіраванне ў ваеннае вучылішча, а лепш паступай у звычайны інстытут ці ўніверсітэт. Рамантыка і ваенная служба – гэта як у паэта: "лёд і полымя, вада і камень".

Генадзь з цягам часу аб'едзе ці не палову вялікай, неабсяжнай краіны, якой ужо даўно не існуе; праплыве на плытах па Прыпяці, іншых рэках Беларусі, не раз пабывае за мяжой, але часта будзе згадваць сваё наіўнае падарожжа ў ваенкамат і добразычлівае пажаданне ваенкама.

Вучоба ва ўніверсітэце (спачатку на філфаку, пасля на журфаку), праца на радыё, у часопісе "Полымя". Адна за адной убачаць свет кнігі паэзіі "Кляновік", "Дыстанцыя небяспекі", "Люблю, спадзяюся, жыву", "Журавінавы востраў" і паўтара дзясятка іншых зборнікаў паэзіі, нарысаў, выданняў для дзяцей. Яго слова пачуюць не толькі ў гарадах і вёсках роднай краіны. Скупы на пахвалу народны паэт Беларусі Пімен Панчанка ў прадмове да нізкі вершаў, надрукаваных у "Комсомольской правде", пісаў: "Ён увайшоў у беларускую паэзію молада і ўпэўнена. Усе заўважылі яго звонкі, чысты голас, поўны захаплення".

*Не багата адпушчана жыць,*
*Ды кажу, паўтараю бясконца:*
*Мы прыйшлі на зямлю, каб любіць*
*І рассыпацца кроплямі сонца.*

Генадзь Пашкоў не шукаў высокіх пасад. Яны знаходзілі яго. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", сакратар Саюза пісьменнікаў БССР, галоўны рэдактар "Беларускай Энцыклапедыі". За дванаццаць год убачылі свет 18 унікальных тамоў (!) Энцыклапедыі, двухтомнікі "Беларускі фальклор", "Тэатральная Беларусь", Блакітная і Чырвоная кнігі краіны, "Спартыўная кніга", шматлікія слоўнікі… Тысячы (!) айчынных і замежных аўтараў бралі ўдзел у стварэнні гэтых унікальных кніг. Што грэх таіць: здавала здароўе, слабеў колісь выдатны зрок – давялося памяняць хрусталікі.

Неяк пры нашай сустрэчы народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін заўважыў: "Калі б Генадзь Пашкоў ні радка не напісаў, а толькі выдаў у свет Энцыклапедыю, то і тады пакінуў бы нязгасны свет у культуры краіны". Як кажуць, ні адняць, ні дадаць.

У такіх творцаў, як Генадзь Пашкоў, нямала акул-зайздроснікаў. Папрокі звычайна адны і тыя ж: "Чаму адседжваецца ў акопе, калі іншыя бяруцца ў рогі з уладамі?" Як паэт і энцыклапедыст, Пашкоў бачыць сваё прызначэнне ў іншым. Не папракаць жа вожыка за калючкі, а лісу – за пушысты хвост. Так ці інакш, усю сваю энергію, працаздольнасць, без перабольшвання шматгранны талент Генадзь Пашкоў траціў і траціць на творчасць. Міжволі згадваюцца радкі рана пакінуўшага свет выдатнага паэта Анатоля Сербантовіча:

*Тых акулы пільна выглядаюць,*
*Хто здабычу к берагу вязе.*

За творчыя здабыткі Генадзь Пашкоў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Яму прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры РБ. Ён з жонкай Алай, спадарожніцай са студэнцкіх гадоў, памагае дачцэ і зяцю гадаваць унукаў. Па-ранейшаму ў творчым пошуку. Яшчэ не вечар, і хочацца закончыць гэтыя сціплыя нататкі з нагоды юбілею паэта ягонымі ж радкамі:

*Я пажыў даволі ў гэтым свеце.*
*І яшчэ, дасць Божа, пажыву.*
*Адпускаю птушкаю на вецер*
*З ціхім смуткам светлую душу.*

**Ян СКРУХА.**

## Генадзь ПАШКОЎ

### (З кнігі «Тваім святлом благаславёны»)

***

Не багата адмерана жыць.
Ды кажу, паўтараю бясконца:
Мы прыйшлі на Зямлю,
каб любіць
і рассыпацца кроплямі сонца.

***

Гляджу на сакавіцкія прасторы,
на сокам набрынялую зямлю.
А хутка час – нябачныя маторы
пагоняць сілу травам і галлю.

Над ручаём, як птахі пералётныя,
здранцвення сон скідаючы цяжкі,
калыша верба ў сіняве
пяшчотныя
ад сонца і ад пуху каташкі.

Любімая!
Запозненыя словы.
Але ў прызнанні
сонцава ліццё.
Як без цябе, скажы,
мая вясновая,
мая Надзея,
Радасць
і Жыццё?!

***

Ёсць мудрыя апосталы святла.
Не тыя,
хто, калоцячы
у грудзі,
гарлае грамавержна:
"Геній – я!" –
а тыя,
хто свядомасць ціха будзяць,
душы і сэрцу кажуць:
хто такі.
Адкуль ты
і чаму на гэтым свеце?

І што за грамавержныя вякі
твой род хрысцілі,
і якое вецце
на дрэве радаслоўным,
на тваім,
дзе кроў жывая,
ды з глыбінь планеты,
нібы рака вясновая – аж дым! –
згрызае лёд мярзлотаў
пракаветных.

Не веру крыкунам і кляцьбітам,
іх пустазвонству,
марнаму адвеку.
Ёсць ціхія апосталы святла,
хто будзіць чалавека у чалавеку.

***

Не перапішаш лёс на чыставік,
праверыўшы як след чарнавікамі.
Ідзеш жыццём –
як полем.
Чаравік
то ў яму трапіць,
то пабудзіць камень.

Усё,
усё,
што робіш,
што рабіў,
дзе хітраваў,
расплачваўся крывёю;
усё,
у што ты верыў,
што любіў
так безаглядна
дзіўнаю парою;
і тога,
знішчыць ты каго не даў,
у слёзную паверыўшы малітву,
і хто цябе у гразь пасля таптаў
з халоднаю усмешкай езуіта –
не выкрасліш у злосці,
не сатрэш,
нідзе,
нішто,
ніколі не схаваеш,
як, за сталом вылуджваючы верш,
радок каструбаваты адвяргаеш.

…Тут спатыкнуўся…
Там пайшоў на дно…
А тут пражыў – аж сэрца замірае!
Мой лёс – мой чарнавік,
дзе ўсё відно,
дзе ўсё баліць,
шчыміць
і дакарае…

### Партрэт Скарыны ў Падуі

Эпохаў усіх ілжэгеніям,
усім сябелюбцам назло,
сумленне чыё
карэннямі ў Радзіму
не урасло;
усім, каму сніліся помнікі,
хто праг у граніце стаяць,
куды паімчацца паломнікі
каменьчыкі падбіраць;
усім,
хто пражыў чужым потам,
чужою крывёю – назло, –
чые манументы потым
кляйміла эпоха: "На злом!" –
на нас, з даўніны,
старажытнаю
памяткаю
праз вякі
глядзяць
чысцінёю блакітнаю
родныя васількі.
Ад тых, хто, ўзлятаючы, падае
душою, –
адпрэчыцца свет.
…Партрэт Скарыны у Падуі,
майго земляка партрэт…

НЕАФІЦЫЙНА

# Фільм «Жоўты пясочак» паводле апавядання Быкава сабраў амаль 2 мільёны праглядаў



*«Жоўты пясочак» рэжысёр Аляксей Туровіч зняў на ўласныя сродкі. Стужка расказвае пра сталінскія рэпрэсіі ў Беларусі, у прыватнасці пра расстрэлы «ворагаў народа» ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам.*

Летась, восенню, да 80-х угодкаў «расстрэльнай ночы», фільм быў гатовы да паказу і нават удалося зладзіць прэзентацыю ў сталічным кінатэатры «Масква». Аднак на гэтым пракатнае жыццё карціны спынілася – апроч некалькіх паказаў у Мінскай вобласці: сталічныя кінатэатры і астатнія рэгіёны палічылі супрацоўніцтва немэтазгодным.

Сёлета на пачатку лютага літаральна за некалькі дзён да завяршэння знаходжання на пасадзе старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі Аляксею Туровічу прапанавалі падпісаць дамову з генеральным прадзюсарскім цэнтрам БТ на выкарыстанне фільма на ўмовах «выключнай ліцэнзіі» на каналах «Беларусь 3» ці «Беларусь 24». Тэрмін дзеяння – 5 гадоў, пачынаючы з 1 сакавіка. Грашовае ўзнагароджанне аўтарскаму калектыву не прадугледжваецца. Рэжысёр кажа, што пагадзіўся на кабальныя ўмовы, паколькі іншых варыянтаў трапіць да тэлегледача папросту няма.

Аднак спробы рэжысёра высветліць, калі стужка можа з'явіцца на беларускіх тэлеэкранах, не далі плёну – кіраўнікі каналаў адказалі, што, згодна з дамовай, цягам пяці гадоў дакладна, аднак сёлета ў планах дэманстрацыя фільма не значыцца.

Не чакаючы сюрпрызаў ад дзяржавы, Аляксей Туровіч выклаў мастацкі фільм у шырокі доступ на YouTube.

Фільм суправаджаецца подпісам: «Забаронены ў афіцыйным паказе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». За мінулы месяц яго прагледзелі больш за 1 мільён 800 тысяч разоў, пракаментавалі звыш 2 тысяч разоў, у старонкі 6 тысяч падпісчыкаў.

*«Пераканaны, што да канца тыдня колькасць праглядаў дасягне 2 мільёнаў,* – заявіў Радыё Свабода Аляксей Туровіч. – *Хай гэта будзе адказам экс-кіраўніку БТ Давыдзьку, які казаў, што такое кіно «ніхто глядзець не будзе». Я больш скажу: нават камерцыйныя расійскія фільмы з велізарнымі бюджэтамі не маюць такога глядацкага ахопу. Таму гэта сапраўдная народная стужка пра часы, якія не нашмат змяніліся за апошнія 80 гадоў – калі казаць пра сутнасць рэжымаў і ў Беларусі, і ў Расіі. Людзей саджаюць, забіваюць, выкрадаюць».*

На думку рэжысёра, тое, што *«так актыўна глядзяць «Жоўты пясочак», сведчыць пра адно: народ стаміўся ад гвалту дыктатуры».*

Трэба адзначыць, што ў каментарыях да кінафільма на YouTube жарсці зашкальваюць: адны хваляць рэжысёра за смеласць і ахвярнасць, іншыя абвінавачваюць у прадажнасці і ачарненні савецкай гісторыі.

ЧУЛІ?

# Праз 40 гадоў чэмпіянат свету па верталётным спорце вяртаецца ў Беларусь

## Верталётны мундзіяль пройдзе з 23 па 29 ліпеня ў беларускай сталіцы

*«Відовішчнае спаборніцтва пройдзе на аэрадроме Баравая і збярэ каля 40–45 экіпажаў з 10–15 краін,* – паведамляе ў сваім прэс-рэлізе арганізатар мерапрыемства – Беларуская федэрацыя авіяцыйнага спорту. – *Сярод фаварытаў і беларусы, якія ўзялі «серабро» на мінулым чэмпіянаце свету ў Польшчы. У Мінску верталётчыкаў чакаюць выпрабаванні ў слаламе, развозцы грузаў, навігацыі, палёце на дакладнасць, каманднай эстафеце і іншых дысцыплінах».*

Беларусь падала заяўку ў Міжнародную авіяцыйную федэрацыю (FAI) на правядзенне чэмпіянату свету вясной 2016 года. Прэзідэнт міжнароднай верталётнай камісіі CIG FAI Жак Берло ў адказ асабіста наведаў тэст-чэмпіянат у Мінску і высока ацаніў узровень яго арганізацыі. У студзені мінулага года Мінск афіцыйна выбралі месцам правядзення чэмпіянату свету па верталётным спорце 2018 года.

Трэба адзначыць, што ў Беларусі ўжо праводзілася сусветнае першынство сярод верталётчыкаў. Але было гэта ў далёкім 1978 годзе ў Віцебску на тэрыторыі аэраклуба ДТСААФ. Праз 40 гадоў чэмпіянат свету па верталётным спорце вяртаецца ў краіну.

КЛАСІКА

# Ідзі і перагледзі

Калі на Захадзе моршчацца «Ну што вы ўсё пра вайну ды пра вайну?», я ў адказ пытаюся: колькі вёсак з жанчынамі і дзецьмі спалілі нямецкія акупанты, напрыклад, у Францыі. Ніводнай. А ў Беларусі, паводле дадзеных Дэпартамента па архіве і справаводстве Міністэрства юстыцыі, гэтая лічба крычыць і рэжа нашы сэрцы да гэтага часу – 9093. Таму мы ніколі не забудзем пра Вялікую Айчынную вайну, а таксама аб усіх журботных датах, з ёю звязаных.

75 гадоў таму – 22 сакавіка 1943 года – была спалена Хатынь. Прымеркаваны менавіта да гэтай даты, у сталічным Доме кіно прайшоў паказ класікі айчыннага кінематографа – адрэстаўраванай версіі драмы рэжысёра Элема Клімава паводле сцэнарыя Алеся Адамовіча «Ідзі і глядзі» («Беларусьфільм», «Мосфильм», 1985 г.). У мінулым годзе карціна атрымала Галоўны прыз на 74-м Венецыянскім кінафестывалі ў намінацыі «Венецыянская класіка». Перад сеансам выступілі члены здымачнай групы: дырэктар карціны Наталля Пальчонак, другі рэжысёр Уладзімір Паначэўны, галоўны гукааператар Віктар Морс – ён спецыяльна прыехаў з Масквы. На жаль, галоўных стваральнікаў фільма – знакамітых Алеся Адамовіча і Элема Клімава – ужо няма сярод жывых.

Я памятаю, як кінастужку ў 1986 годзе прывезлі ў Мінск. Спачатку яе паказвалі ў кінатэатры «Кастрычнік» – ён быў тады лепшым у сталіцы. Квіткі на сеанс купіць было вельмі цяжка, але, вядома, людзі стаялі ў чарзе, не лічачыся з часам.

І вось заканчваюцца апошнія кадры фільма – пекла з крыві і агню. Галоўны герой Флёр (13-гадовы Аляксей Краўчанка, які стаў прафесійным акцёрам і служыць зараз у МХТ імя Чэхава), у фільме падлетак з тварам старога чалавека, ашалела страляе ў партрэт Гітлера-правадыра, Гітлера-юнака, Гітлера-хлапчука. Але ў Гітлера-немаўля ён стрэліць не можа... Немаўля не вінавата. А Флёр нават пасля ўсяго перажытага пекла ўсё ж такі не можа абудзіць у сабе звера... На шчасце, не можа.

Людзі выходзілі з кінатэатра пры мёртвай цішыні. Як у 1986-м, так і ўчора, у 2018-м. Асабіста я думала, што ніколі больш не змагу ўсміхацца. Як у 1986-м, так і зноў учора…

За больш як 30 гадоў з моманту стварэння фільм стаў лаўрэатам шматлікіх прэстыжных кінафэстаў. У 1985 годзе ён быў вылучаны ад СССР у лік прэтэндэнтаў на прэмію «Оскар» у намінацыі «Лепшы фільм на замежнай мове». У 2008 годзе брытанскі часопіс Empire уключыў стужку ў спіс «500 найвялікшых фільмаў усіх часоў». Паводле вынікаў апытання, праведзенага ў 2012 годзе брытанскім часопісам Sight & Sound сярод рэжысёраў, карціна заняла 30-е месца ў спісе лепшых фільмаў усіх часоў. На "Ютубе" кінастужка мае каля двух мільёнаў праглядаў.

**Алена МАЛОЧКА.**
**Фота Яўгена КОКТЫША.**



